«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (204), жнівень 2023 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 8 (204) (жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

Змест 



**ФОРУМ**

# Пра годнасць і сорам у культуры



Аляксей РАГУЛЯ

З надыходам Новага часу ў сферы духоўнай жыццядзейнасці намеціліся дзве процілеглыя тэндэнцыі, абумоўленыя пашырэннем культурнай прасторы. Здзейсненае Міколам Капернікам адкрыццё геліяцэнтрычнай сістэмы абудзіла ў чалавеку патрэбу самасцвярджэння ў сусвеце. Еўрапейскі Рэнесанс стаў пачаткам усведамлення асобай свайго стваральнага патэнцыялу — якасцяў крэатора, якія раней цалкам перадаваліся вышэйшым сілам.

Усведамленне свайго становішча ў сусвеце было адначасова пачаткам новага этапу пазнання чалавекам самога сябе ў якасці энтузіяста. Перакананы прыхільнік М. Каперніка Джардано Бруна сцвярджаў ідэю адзінства неба і зямлі. Прыроду ён тлумачыў як «Бога ў рэчах» — як тоесную з Богам. Любоў да бясконцасці складае сутнасць этычнага вучэння Дж. Бруна.

Заснаваная на паяднанні рацыяналізму і энтузіязму этыка патрабавала ад чалавека павышанай актыўнасці і адпавядальнасці паводзінаў у новай культурнай прасторы. Дж. Пантана ў трактаце «Уладар» (1520) стварыў новую мадэль кіраўніка — альтэрнатыву ўладару-тырану. Італьянскі мысліцель меў на ўвазе энтузіяста сацыяльнай творчасці. Аднак «спектакль» спалення 17 лютага 1600 года Дж. Бруна з удзелам дзесяці тысяч «святых» гледачоў моцна абпаліў еўрапейскаму энтузіязму крылы.

Энтузіязм быў пастаўлены пад кантроль канфармісцкай развагі. Гэтым самым адкрыўся шлях для канцэпцыяў, вызваленых ад нормаў грамадзянскага гуманізму.

У святле агнёў святой інквізіцыі больш надзейным паказаўся шлях макіявелізму. Нікалё Макіявелі ў сваім трактаце «Уладар» зыходзіў з прынцыпаў найноўшай «філасофіі жыцця» за тры ста з лішнім гадоў да яе вербальнага афармлення Фрыдрыхам Ніцшэ. Н. Макіявелі прапанаваў мадэль кіраўніка, далёкага ад безагляднага энтузіязму. За ўзор быў узяты гібрыд ільва і лісіцы, прынцыпова іншы ў параўнанні з высакародным гібрыдам чалавека і каня ў Антычнасці — добрым кентаўрам Хіронам, які па сваім узоры і падабенстве выхаваў высакароднага Ахіла, першапачатковую мадэль героя еўрапейскай рыцарскай утопіі. Макіявелі патрабаваў ад кіраўніка ўмення прыкрыць сваю натуру — «быць вялікім ашуканцам і хлусам».

У Італіі падчас крызісу высокага Рэнесансу ўжо была спрыяльная глеба для апалогіі новага, імаральнага «героя» задоўга да з’яўлення ніцшэанскай мадэлі звышчалавека, вызваленага ад усяго «чалавечага, праз меру чалавечага».

Пры ўсёй сваёй непадобнасці такія ідэалагічныя плыні, як ніцшэанская «філасофія жыцця», марксізм і ранні фрэйдызм у XX стагоддзі сышліся на сцвярджанні і апраўданні табуіраванага культурай цынізму. Стаўка была зробленая на спустошаную, зведзеную да ўзроўню недачалавека «няшчасную свядомасць» (Гегель). На справе ж была здзейснена філасофская «рэдукцыя»: псіхічная прастора вычышчалася ад патрэбы пошукаў сэнсу, энтузіязму, бога дзеля запаўнення яе цынізмам.

Экстрэмісцкі авангардызм з яго непамернымі прэтэнзіямі на манапольнае панаванне ў культурнай прасторы XX-га стагоддзя быў гнасеалагічна звязаны з філасофіяй татальнага нігілізму. Аднак ён не змог адшукаць ды і не шукаў шляхоў да паяднання інтэлекту і інтуіцыі. Больш за тое: нігілізм без берагоў разбурыў створаную ідэалізмам філасофска-эстэтычную лабараторыю «чыстага» розуму і «чыстага» мастацтва. Гэтым самым нігілізм, незалежна ад яго чорнай, карычневай ці чырвонай афарбоўкі, перакрэсліваў магчымасць спалучэння рэаліяў эпохі з першапачатковым сэнсам быцця, перакрэсліваў анталогію, рэдуцыраваў усё «разумнае» і «сапраўднае» да брутальнасці.

У Першым маніфесце сюррэалізму ў 1924 годзе з’явіўся шырока вядомы сёння пасаж: «Самы просты сюррэалістычны акт заключаецца ў тым, каб выйсці на вуліцу і страляць наўгад у натоўп, пакуль хопіць сілы».

«Кастетом миру кроиться в череп» і «ваше слово, товарищ маузер», — ключавыя заклікі расійскіх футурыстаў на пачатку іхняй капітуляцыі пад сценамі чырвонага Крамля. Вызвалены філасофіяй нігілізму ад усяго «чалавечага, праз меру чалавечага», «падпольны чалавек» рускага класічнага рамана станавіўся энтузіястам «рэвалюцыйнага» разбурэння.



Прарок. Малюнак Язэпа Драздовіча, 1931 г.

За вызваленнем ад «чалавечага, праз меру чалавечага» прыйшло жаданне вызваліць творчасць ад рэальнасці. Яно закончылася правалам у нішто. Пра яго пагрозу ў свой час напамінаў Гегель. Нішто з пункту гледжання абсалютнага суб’екта — гэта тое, што ўжо ці яшчэ не ёсць «разумнае» і «сапраўднае», што стаіць па-за працэсам станаўлення і павінна быць пераадолена.

«Філасофія жыцця» і матэрыялізм XX-га стагоддзя адмовіліся ад катэгорыі «нішто» тады, калі ўзнікла ў ім патрэба дзеля каштоўнаснай ацэнкі чалавечага быцця і небыцця. Белы, чорны і чырвоны супрэматызм Казіміра Малевіча стаў папярэджаннем пра рух чырвонай конніцы ў нікуды, пра будаўніцтва чырвонага дома без вакон і дзвярэй паміж небам і зямлёй, у нідзе, па-за культурнай прасторай, прыдатнага хіба што для выкарыстання ў якасці турмы. Чорны квадрат на чорным фоне, раўнацэнны беламу квадрату на белым фоне, стаў адначасова і ілюстрацыяй вынікаў тварэння новага свету па-за рэальным светам. Абстракцыянізм К. Малевіча — гэта папярэджанне аб пагрозе чорнага, белага, чырвонага і карычневага нішто. К. Малевіч у сваёй творчасці выступае перш за ўсё як філосаф, які мысліць сімваламі светлаценю і колераў і папярэджвае аб пагрозе экстрэмісцкага абстракцыянізму. Паўфігуры з паўгаловамі на яго палотнах 20-х — пачатку 30-х гадоў тыпалагічна блізкія да мутантаў з беларускага фальклору, сярод якіх вылучаецца аднабокі цар Пастаянец, складзены з паўгалавы, аднаго пляча, адной рукі і адной нагі.

Сам К. Малевіч паспеў прайсці толькі палову свайго пошукавага шляху. Другая палова толькі пачыналася са звароту да фальклорнага манументалізму і дызайну — тварэння культурнай прасторы з улікам касмічных вынікаў цывілізатарскай дзейнасці чалавека. На гэтым напрамку ў Беларусі, аднак, мелі куды больш плённыя вынікі і лірычны герой паэзіі Максіма Багдановіча, і зямляне вандроўнага мастака Язэпа Драздовіча: сваё падарожжа ў сініх прасторах халоднага космасу яны пачалі з Кнігай-сімвалам святла і цяпла з «роднага кута».

Беларускі мадэрнізм як у народнай, так і ў індывідуальнай творчасці эвалюцыянаваў у напрамку насычэння традыцыйнай формы актуальным сацыялагічным зместам. Кайф абсалютнай асацыяльнасці ў мастацтве заканамерна закончыўся стратай пошукавай функцыі і банальным эпатажам.

У карціне «Мужчына і жанчына перад кучай экскрэментаў» (1835) Хаана Міро і «Партрэт двух аголеных» (1936) Стэнлі Спэнсэра ёсць своеасаблівая пластыка, але няма пафасу жыццесцвярджэння. Хваравітая засяроджанасць на экскрэментах і органах выдзялення ў падобных рэчах суправаджаецца разбурэннем двух першапачатковых эстэтычных канонаў: смехавога і трагедыйнага.

Натуралізм 30-х гадоў адышоў далёка ад пазнавальнай традыцыі Эміля Заля. Пагроза разбурэння семантыкі сімволіка-пазнавальнага комплексу застаецца рэальнай і сёння.

У Беларусі таксама можна сустрэцца з наскокамі новых «тэарэтыкаў» на нібыта празмернасці сацыялагічнай інфармацыі ў нацыянальнай культуры.

Імперская ідэалогія звышдзяржаў не адразу ацаніла паслугу, якую ёй прапануе экстрэмісцкі нігілізм з яго стаўкай на апалогію цынізму. З разбурэннем класічнай этычнай і эстэтычнай парадыгмы культура «вызваляецца» ад нарматыўна-рэгулятыўнай функцыі — і знікае патрэба ў місіянерах і культуртрэгерах. Звышдзяржавы цяпер могуць рабіць стаўку на «тутэйшага» — «нашага сукінага сына», а будаўніцтва храмаў можна паспяхова спалучаць з гастрольным нашэсцем чужога эстраднага «блатняка».

Можна ў інтарэсах каланізацыі выкарыстаць яшчэ больш эфектыўны сродак разбурэння культурнай прасторы: звышсучасную тэорыю глабалізацыі. Валодаючы сучаснымі сродкамі сувязі, касмакратыя мала дбае пра глабальны агульначалавечы інтарэс — на першым плане застаюцца інтарэсы, зразумела, бізнесовыя.

У такой сітуацыі ўзрастае роля і адказнасць нацыянальна-тэрытарыяльнай дзяржавы за захаванне і зберажэнне нацыянальна-культурнай прасторы, культурнай памяці этнасу. Развіццё лепшых лакальных традыцый становіцца прыярытэтным клопатам нацыянальна-тэрытарыяльнай дзяржавы, умовай яе існавання.

Аднак жа так бывае не заўсёды. Пасля распаду савецкай імперыі яе прыхільнікі перажываюць настальгію па страчанай антыўтопіі. Такая сацыяльная праслойка ёсць не толькі ў метраполіях, але і ў былых калоніях. Чэслаў Мілаш у кнізе «Скуты розум» (1951) разгледзеў характэрную для хворай на імперскі сіндром псіхікі інстытуцыю Кетман. Ён абапіраўся на кнігу французскага амбасадара ў 1861—1863 гадах у Персіі Габіно «Рэлігія і філасофія ў Цэнтральнай Азіі». Габіно заўважыў, што з’ява, якая мае назву Кетман, ёсць прадукт дэфармацыі псіхікі татальным акторствам, прыстасавальніцтвам, юродствам.

На беларускай культурнай прасторы за апошнія дзвесце гадоў склалася асабліва небяспечная, янычарская форма нацыянальнага Кетмана. Яна дапаўняе прапанаваную Ч. Мілашам табліцу абесчалавечаных элементаў. У беларускай культуры яна ўвасоблена ў вобразах вялікай экспрэсіўнай сілы: аднабокага цара Пастаянца, Найяснейшай кароны, Зносака, Жалезнага звера, Свінячага маманта. Гэтае адгалінаванне этнасу Янка Купала характарызаваў як «пароду рэнегатаў і дэгенератаў». Іх бліжэйшы радавод — беларускі бэстыярый у народнай казцы, плойма перараджэнцаў узору пасля 1864 года з твораў Элізы Ажэшка, Ядвігіна Ш. і Францішка Багушэвіча.

Заканчэнне на стар. 2 »

# Пра годнасць і сорам у культуры

**« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1**

Стыхія такіх «абесчалавечаных элементаў» — неакрэсленасць маральных прынцыпаў, бездзяржаўнае існаванне этнасу, калектыўная ўласнасць. У творах беларускага празаіка Васіля Быкава («Воўчая зграя», «Знак бяды», «Ваўчыная яма») гучыць перасцярога аб пагрозе паўзучай сацыяльнай катастрофы. Яе рыхтуюць не толькі хіжыя ваўкі, але і арганізаваныя пацукі.

Пагрозе пераўтварэння культурнай прасторы ў радыёактыўны сметнік павінны быць проціпастаўлены розум і воля да жыцця сумарнага суб'екта культуры. Адной з прычын другаснай ролі краін Сярэдняй і Усходняй Еўропы ў геапалітыцы апошніх стагоддзяў з'яўляецца недаацэнка палітычнымі лідэрамі глыбінных «пластоў народнай жыццяздольнасці» (Кузьма Чорны), закладзеных у культурах з моцным пластом кроўнасваяцкай традыцыі...

Філасофскае асэнсаванне ўласнага крэатыўнага патэнцыялу сёння можна разглядаць як актуальнейшую праблему самавызначэння калектыўнага суб'екта культуры Сярэдняга і Усходняга рэгіёна Еўропы. У псіхалагічным плане гэта ёсць задача пераадолення ганебнага кетманскага стану, вяртанне да чалавечай годнасці.

Свядома і мэтанакіравана да вырашэння гэтай задачы ставіліся дзеячы адраджэнскага кірунку. Чалавечая і грамадзянская ганьба і годнасць, індывідуальны і нацыянальны сорам — гэтыя матывы ў творчасці Янкі Купалы гучаць гэтак жа напружана, як і матывы тугі па Айчыне ў польскіх рамантыкаў...

Выкарыстанне традыцыйных спосабаў тыпізацыі — па аналогіі, прыёмы алюзіі і алегарызму — у Новым часе дало выдатны плён і сфарміравала духоўную імунную сістэму суб'екта. Жыццястойкасць культуры Цэнтральна-Усходняга Еўрапейскага рэгіёна была пацверджана неаднаразова на працягу стагоддзяў. Перамога Альгерда ў 1364 годзе на Сініх Водах, вызваленне Кіева, перамога пад Грунвальдам у 1410 годзе, пад Смаленскам у 1514 годзе, спыненая Янам Сабескім у другой палове XVII стагоддзя турэцкая агрэсія маюць значэнне для гісторыі ўсёй еўрапейскай культуры.

Так у змаганні ствараліся ўмовы для талерантнага развіцця. Адраджэнская культура другой паловы XIX—XX стагоддзяў не спалохалася выкліку, кінутага філасофіяй нігілізму. Яна сама ўзбагаціла сусветную грамадскую думку новым бачаннем рэчаіснасці. На чалавечай дарозе крызіснага XX стагоддзя яна адкрыла глыбінныя рэсурсы духу ў аблічы звычайнага чалавека, у яго «наіўнай» далучанасці да стваральнага патэнцыялу універсума. Абраны ёю шлях меў на мэце не толькі альтэрнатыву спустошанаму цыніку, але і гартаванне мужнасці. Менавіта на гэтым напрамку сфармаваўся польскі катастрафізм і беларускі «крытычны аптымізм» — ядро суровага рэалізму ў сучаснай культуры, сінтэз творчага пошуку і эксперыменту на працягу больш чым стогадовага шляху.

# Да гісторыі аднаго міфа

Анатоль СІДАРЭВІЧ

У нашай гісторыка-літаратурнай навуцы (як і ў гісторыях іншых літаратур) ёсць міфалагемы і міфы, якія бытуюць не ў вуснай традыцыі (анекдоты, пераказы чутага і да т. п.), а зафіксаваны ў друкаваных тэкстах.

Мне даводзілася пісаць пра міфалагему «кажушок ад Янкі Купалы». Перш адзін аўтар расказаў, што Купала перадаў той кажушок у турму зняволенаму Антону Луцкевічу. Праз колькі часу другі аўтар (пэўна, не чытаўшы першага) напісаў, што Купала ў той самы час (хапун заходнебеларускіх дзеячаў) перадаў у турму яшчэ адзін кажушок — на гэты раз Аляксандру Уласаву.

Дзякуй Богу, байкі пра «кажушкі ад Купалы» ўдалося спыніць. Але няма ніякай гарантыі, што ніхто не ўзновіць, напрыклад, міф аб брашуры, якую да 50-годдзя Песняра нібыта выпусціла падпольная Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Міф гэты я сустрэў у двух выданнях: у энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» і ў Поўным зборы твораў паэта. А выдумка гэтая абвяргаецца лёгка: не магла падпольная друкарня выпусціць брашуру з фотаздымкам, бо тады тэхніка вырабу клішэ была даволі складаная, і нават не ўсе легальныя друкарні мелі належнае абсталяванне. Электраграверавальны ж апарат быў вынайдзены акурат у 1932 годзе. Для падпольнай друкарні гэта была даволі грувасткая прылада, якую правезці цераз нямецка-польскую мяжу ў абход памежнай службы і мытні было практычна немагчыма. Да таго ж машыну належала падключыць да электрасеткі. Ды яшчэ патрабаваўся падрыхтаваны спецыяліст.

Няма сумневаў, што брашуру да 50-годдзя Янкі Купалы аддрукавалі ў Менску і перакінулі яе наклад у Заходнюю Беларусь. І было тое выданне своеасаблівым адказам на выдадзеную ў Вільні лекцыю Антона Луцкевіча «Янка Купала як прарок Адраджэння».

Яшчэ адзін міф датычыць асобы Браніслава Эпімаха-Шыпілы. Ён і Купалу ў Піцер запрасіў, і прытуліў яго на сваёй кватэры, і ўладкаваў на вучобу, і нават узяў яго на поўнае ўтрыманне, як сцвярджаў удзельнік Усебеларускага з'езда Язэп Сушынскі. З Эпімахавай ініцыятывы, кажа міф, была створана выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца», а сам Эпімах-Шыпіла стаў яе фактычным кіраўніком. Можна і трэба зразумець, чаму такое ці амаль такое друкавалася, напрыклад, у выдадзеным у 1986 годзе энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» (с. 238, 676), але практычна тое ж сцвярджаецца і ў XXI стагоддзі. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова пагартаць Беларускую Энцыклапедыю (т. 6, с. 496; т. 18, с. 143—144). А тым часам да сярэдзіны 1990-х мы мелі ўкладзены Генадзем Кісялёвым зборнік дакументаў і матэрыялаў «Пуцявінамі Янкі Купалы» (1981) і ўгрунтаваныя на архіўных матэрыялах даследаванні Юрыя Туронка, з якіх вынікае, што Купалу ў Пецярбург запрасіў Вацлаў Іваноўскі, што першыя паўгода паэт быў прапісаны на кватэры выдавецкай суполкі «Загляне сонца...», што ініцыятарам стварэння суполкі і яе кіраўніком быў пачынальнік беларускай кнігавыдавецкай справы XX ст. В. Іваноўскі, што Б. Эпімах-Шыпіла ў складаны для суполкі час быў адышоў ад яе спраў і прапанаваў ёй пашукаць іншую кватэру для юрыдычнага адрасу...

Міф пра Эпімаха-Шыпілу мае свaіх «бацькоў». І ў гэтым артыкуле я паспрабую паказаць, як гэты міф ствараўся. Першы тэкст пра Эпімаха-Шыпілу апублікаваў, наколькі мне вядома, у адным-адзіным нумары часопіса «Варта» (1918) нехта Ант. Саросек. Можна было б думаць, што за гэтым псеўданімам хаваўся прамотар выдання Язэп Варонка, які ў дарэвалюцыйны час уваходзіў у беларускае кола ў Піцеры, але ў газеце «Наша слова» яшчэ дзесяць гадоў таму з'явіўся артыкул Ярослава Грынкевіча «1700-годдзе Міланскага эдыкту і Беларусь», з якога вынікае, што ў 1913 годзе ў Мастоўскай рыма-каталіцкай парафіі служыў ксёндз Й.-В. Саросек.

Узяўшы пад увагу тое, што гэтае прозвішча даволі распаўсюджанае, можна дапусціць, што Ант. Саросек — сапраўднае імя і прозвішча чалавека, які ведаў Эпімаха-Шыпілу і, не выключана, быў яго вучнем.

У тэксце Ант. Саросека ўтрымлівалася непраўдзівая інфармацыя. Аўтар абвясціў Б. Эпімаха-Шыпілу «старшынёй вышэй памянёнай выдавецкай суполкі», а таксама старшынёй «Таварыства ізучэння культурна-прамысловага стану Беларусі» (пад апошнім, пэўна, меўся на ўвазе Беларускі літаратурна-навуковы гурток студэнтаў СанктПецярбургскага ўніверсітэта).

Цяжка сказаць, чым кіраваўся Ант. Саросек, падаючы такую непраўдзівую інфармацыю. Затое можна цалкам патлумачыць прычыны непраўдзівых сведчанняў, якія ўтрымліваюцца ў артыкуле З. Ж. (Змітрака Жылуновіча) «Праф. Б. І. Эпімах-Шыпіла як піянер беларускага руху» («Савецкая Беларусь», 1924, 25 снежня). На гэтыя прычыны ўказвае ўзяты ў дужкі падзагаловак артыкула: «Да выдання пачэснай пенсіі СНК Бел. Рэспублікі». Дзеячы БССР, якія ведалі Эпімаха-Шыпілу ў дарэвалюцыйны час і якіх ён прывеціў, зрабілі ўсё належнае, каб сталаму дзеячу была прызначана пенсія. Мабыць, Зм. Жылуновіч лічыў, што дзеля гэтага можна паграшыць супраць ісціны і прыпісаць Эпімаху-Шыпілу і тое добрае, чаго ён не рабіў.

Усім, хто вывучаў гісторыю беларускай літаратуры пачатку XX ст., вядома, што выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша ваконца» выдавала таксама альманах «Маладая Беларусь». Вядома таксама, што да выдання альманаха непасрэднае дачыненне меў Я. Купала. Не менш вядома, што ў другім сшытку гэтага альманаха (1912) была змешчана першая аўтабіяграфія Цішкі Гартнага і нізка яго вершаў. На аснове гэтай падборкі ў 1913 годзе суполка выдала зборнік «Pieśni». Аднак пралетарскі паэт не мог пахваліцца ў БССР, што суполкаю, якая выпусціла яго першую кніжку, кіраваў сын памешчыка і цывільнага генерала, у дарэвалюцыйны час дацэнт Тэхналагічнага інстытута ў Пецярбургу, а ў той час, як пісаўся артыкул для «Савецкай Беларусі», — прафесар «панскага» Політэхнічнага інстытута ў Варшаве Вацлаў Іваноўскі. З палітычнага гледзішча больш выгадна было «паставіць» на чале суполкі палітычна нейтральнага і нават наёмнага работніка, ледзь не «пралетара разумовай працы» Эпімаха-Шыпілу (што гэты «пралетар» меў фальваракі і выкладаў у Духоўнай акадэміі, мэтазгодна было маўчаць)...

З тае прычыны, што старшыня выдавецкай суполкі В. Іваноўскі не быў бальшавіком-ленінцам, а ўваходзіў у склад Цэнтральнага Камітэта Беларускай Сацыялістычнай Грамады, называць яго сапраўдным кіраўніком суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» не выпадала. Вядома, што прырода не трывае пустаты. Таму, паводле логікі, камусьці належала заняць месца В. Іваноўскага...

Артыкул Зм. Жылуновіча, як і хадайніцтвы за Эпімаха-Шыпілу іншых асоб, на нейкі час прынёс карысць і беларускай навуцы, і асабіста былому памочніку бібліятэкара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. З 1925 года ён працаваў у Інстытуце беларускай культуры ў Менску.

Сярод прац, якія рэдагаваў Браніслаў Эпімах-Шыпіла, быў і «Віцебскі краёвы слоўнік» (1927) Мікалая Каспяровіча. Гэты даследчык у сваёй працы «Матар'ялы да вывучэння Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва» («Маладняк», 1927, сш. 6) зазначаў тое, што пра Б. Эпімаха-Шыпілу напісаў Зм. Жылуновіч.

Як вядома, у ліпені 1930-га маскоўскія сатрапы арыштавалі Б. Эпімаха-Шыпілу ў «справе» «Саюза вызвалення Беларусі», а ў верасні таго ж года забаранілі яму жыць у Менску. Бездапаможны, даведзены да жалюгоднага стану, ён у 1934 годзе памёр у Ленінградзе.

Імя рэдактара першых двух зборнікаў Янкі Купалы вярнулася з нябыту ў значнай меры дзякуючы Рыгору Семашкевічу, аўтару кніжкі «Браніслаў Эпімах-Шыпіла» (1968) ды іншых прац з гісторыі беларускага грамадска-літаратурнага руху ў Пецярбургу пачатку мінулага стагоддзя. Але разам з тым вярнуўся і міф, створаны Ант. Саросекам ды Зм. Жылуновічам.

З тае прычыны, што на імя Вацлава Іваноўскага было накладзена табу (да ранейшых яго «грахоў» дадалося яшчэ абвінавачванне ў супрацоўніцтве з нацысцкімі акупантамі), Р. Семашкевічу нічога іншага не заставалася, як паўтарыць напісанае да вайны. Праўда, малады вучоны жыў у іншых абставінах, у іншы час. Ведаючы аб рэальнай ролі Б. Эпімаха-Шыпілы ў гісторыі беларускага руху, Р. Семашкевіч не паставіў яго на чале Круга беларускай народнай прасветы і культуры і не абвясціў яго старшынёю і дырэктарам выдавецкай суполкі. Гісторык назваў яго неафіцыйным кіраўніком гэтае ўстановы. Такім чынам, даследчык пайшоў за ксяндзом Адамам Станкевічам, які ў брашуры «Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла...» (1935) напісаў, што яго настаўнік быў душою суполкі.

Ад часу выхаду ў свет прац Р. Семашкевіча прайшло нямала гадоў. У 2006-м у свет выйшаў ёмісты том Ю. Туронка «Мадэрная гісторыя Беларусі», у якім змешчаны ягоная праца «Дзейнасць беларускага выдавецтва "Загляне сонца і ў наша ваконца" ў Пецярбургу» і манаграфія «Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі». Аднак у літаратуры ўсё яшчэ чутны згукі міфа, створанага Ант. Саросекам, Зм. Жылуновічам, М. Каспяровічам і А. Станкевічам. Семашкевічавы словы пра тое, што Б. Эпімах-Шыпіла быў неафіцыйным кіраўніком суполкі, некаторыя разумеюць так, што памочнік бібліятэкара Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта быў яе фактычным кіраўніком. І тыражуюць гэтую выснову ў новых публікацыях. Гэтак жа тыражуецца міф і пра тое, што Б. Эпімах-Шыпіла запрасіў у 1909 годзе да сябе ў Пецярбург Янку Купалу і ўзяў яго на поўнае забеспячэнне. (Праўда, Зм. Жылуновіч, у адрозненне ад Я. Сушынскага, «удакладніў», што Б. Эпімах-Шыпіла вучыў і «сутрымоўваў» Я. Купалу не ўвесь час яго побыту ў Пецярбургу, а «каля двух гадоў».)

Міфы жывучыя, і пераадольваць іх цяжка. Але пераадольваць іх трэба, проста неабходна.

# Медаль з выявай Леніна



Віктар САЗОНАЎ

— Хадзі, унучак, сюды. Хачу табе пакінуць пасля сябе памяць, бо не вечна ж я буду гэты свет таптаць. А свайго часу ніхто не ведае. Таму, калі зацягваць нешта, то можна і не паспець, — ціха паклікала мяне бабуля задуменным да ўзроўню таямнічасці голасам.

Мне ажно памроілася, што хата напоўнілася нябачнымі казачнымі істотамі з дзіцячых кніжак, каторыя на той момант ужо пакрысе саступалі месца літаратурным персанажам для больш дарослых. Або таямнічымі постацямі з легендаў і паданняў, якімі багатая тая зямля і якія не перастаюць бударажыць душу і розум і ў вельмі дарослым узросце.

А ў той знакавы дзень, які, на першы погляд, анічым не адрозніваўся ад іншых не знакавых, але запомніўся ўрэшце на ўсё жыццё, я прыехаў да сваіх карлаўскіх бабулі і дзядулі ў госці на ровары. Так мы, унукі, іх называлі — «карлаўскія». Бо жылі яны ў невялічкай вёсцы з таямнічай назвай Карлаўшчына. Казалі, што гэта ад слова «Карл», а можа нават ад «Каралеўшчына». Ды мала што людзі панавыдумляюць! Бывае, часамі і праўду.

Ад маёй вёскі Гальшаны гэта не далёка, калі праз лес. Як старыя людзі казалі — для сабакі не дарога. Яны так не толькі пра сабак казалі. Ну а па лясных дарогах я любіў і пешшу праляцецца, і, у адрозненні ад сабак, на ровары пракатнуцца. Ды і дзядулю з бабуляй любіў. І стравы, якімі яны мяне частавалі, таксама.

— А чаму мне аднаму, — здзіўлена пытаюся я, бо прызвычаіўся, што бабуля для ўсіх унукаў заўсёды дзяліла ўсё пароўну.

— Ты ў мяне старэйшы з унукаў, і для такіх рэчаў дастаткова талковы. Ну то хай у цябе тое і будзе. Ты зберажэш, — растлумачыла яна свой выбар. — Сэрцам чую, што ў цябе яно не прападзе. Наадварот. Зробіш з гэтым тое, што мусіш. А сэрца мяне ніколі не падманвала...

Мне, калядванаццацігадоваму падшпарку, на той момант як салдацкім ботам уціснулі ў мазгі школьнай праграмай, што мы разумнейшыя за нашых продкаў. Бо гэта мы, маўляў, а не яны, ходзім у самую прагрэсіўную савецкую школу, і гэта мы слухаем самых адукаваных настаўнікаў на свеце. Таму і дзіўна было мне, што мая старэнькая бабуля, якая нават не чытае перыядычнай савецкай прэсы і не глядзіць такога ж савецкага тэлебачання з граматнымі тэлевядучымі у галіне праўдзівых прагнозаў і прадбачанняў ёсць разумнейшай не толькі за іх усіх разам узятых, але нават і за мяне самога.

— Што ты такое, бабуля, гаворыш, — ветліва адгукнуўся на яе настрой я такім чынам, як мяне вучылі бацькі і школа. — Ты яшчэ маладая.

Бабуля ўсміхнулася і прыгожымі павольнымі рухамі дастала з куфару невялічкі скрутак з чыстай і акуратна складзенай тканіны, перавязанай накрыж суровай ніткай. Паклала яго на стол перад сабой. Ну, і перада мной таксама.

Што там, усярэдзіне, здагадацца было б цяжкавата нават тым знакамітым навукоўцам, якія ўваходзяць у першую дзясятку мазгоў з непераўзыдзеным лагічным мысленнем. Бо іх розум прывык раскрываць глыбінныя загадкі і таямніцы ў тысячу шахматных ходаў. Тут жа варыянтаў было не больш трох, і аніводзін не падыходзіў.

Першым варыянтам маглі быць нейкія там дробныя грошы. Ды бабуля з дзядулем і так аддавалі да капейкі ўсю сваю пенсію нам, унукам. Дарылі на дні нараджэння. А самі выкручваліся неяк з самай звычайнай натуральнай гаспадаркі ў выглядзе сарака сотак зямлі ля хаты ды хатняй жывёлы ля яе ж. І неяк усяго хапала і самім, і каб мяне пачаставаць смачна. І нават кот, якога яны яўна шанавалі менш, чым мяне, ніколі не быў галодным. Хіба таму тая жывёліна і не пярэчыла маім візітам. Ласкава ля ног цёрся коцік. Ведаў, што не аб'ем яго долі. Усім хопіць і яшчэ застанецца.

Другім варыянтам мог быць, як мне намаўляла рамантычная натура падрашчака, старадаўні скарб, прыхаваны старымі яшчэ ў маладосці. Каб бальшавікі не экспрапрыіравалі. Шмат хто тады схаваў, што меў, і большасць таго ў зямлі ляжыць па сённяшні дзень.

Дзед быў з нейкага ангельскага і не абы-якога роду па маці, якая нарадзіла яго ў Нью-Ёрку ў Злучаных Штатах Амерыкі. Але ж сюды, на радзіму мужа, яна прывезла майго дзеда яшчэ зусім дзіцянём. Ды і загінула тут трагічна ў вельмі маладым узросце. Таму разлічваць на тое, што перадала яму нейкае багацце, акрамя самога жыцця, ніяк не даводзілася.

Трэцім варыянтам, як мне мроілася, магла быць схаваная з часоў вайны зброя або рэлігійная літаратура, цытатамі з якой бабуля шчодра перасыпала свае размовы з намі. Гэтыя розныя, на першы погляд, рэчы клаліся ў адзін варыянт з тае простай прычыны, што для тагачаснай улады яны былі аднолькава непрымальныя і небяспечныя. Што рэлігія, што зброя — гэта ўсё адно і тое. Не трэба было быць вельмі разумным, каб тое ўцяміць з навучальнай праграмы ўжо першага класа. Кожны школьнік ведаў. І не толькі школьнік.

Але і тут не ўсё зрасталася. Зброю наўрад ці далі б у рукі дзіцяці. А Біблію ды Малітоўнік бабуля і так нам чытала.

— Гэта вось медаль, якім мяне ўзнагародзілі за добрую працу ў калгасе, — пацвердзіла бабуля мае падазрэнні пра безгрунтоўнасць усіх трох найбольш верагодных версій. — Ён для мяне вельмі дарагі. А чаму так, зразумееш крыху пазней. Як вырасцеш. Нават тады, як сваіх дзяцей вырасціш.

З гэтымі словамі яна разгарнула тканіну, і адтуль з боку, супрацьлегламу рэверсу, на мяне глянула адным вокам профільная выява галоўнага бальшавіка краіны саветаў Леніна. Правадыра тых самых бальшавікоў, якія і забралі ў мясцовага працавітага люду ўсё, што магло матэрыялізаваць тыя тры папярэднія версіі разам узятыя.

Гэта быў юбілейны медаль «За доблестный труд», выпушчаны з нагоды 100-годдзя з дня



Фота mirmuz.com

нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна і зацверджаны Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 5 лістапада 1969-га года...

— Бабуля, мне здаецца, ты недалюблівала таго Леніна, — палахліва спытаўся я, успамінаючы пачутыя раней размовы старых пра мінулае. — Ды і калгасаў не любіла, здаецца. Мне распавядалі, што нават людзей угаворвала бунтаваць супраць калгасаў. І бальшавікоў таксама недалюблівала. Дзед казаў.

Дзеду то я верыў.

— Не любіла, — пацвердзіла бабуля. — Што праўда, тое праўда. А хіба ж ёсць за што іх любіць?! Як сёння памятаю, як яны ў нашу вёску прыехалі. Шынялі дзіравыя, коні худыя, ненакормленыя, недагледжаныя. Зайшлі ў хату і не паздароўкаліся. Адразу за стол. Кажуць, каб посуд паставіла і шклянкі для гарэлкі. Ужо нарабавалі недзе. Я ім кілішкі падаю. А яны рагочуць. Кажуць, шклянкі давай. І лыкаюць з тых шклянак, як шалёная карова пратухлае пойла. Адзін другога перахлябаць спрабуюць. І сала ў некага ўжо адабралі. Адзін рэжа і кажа, што, відаць, свіння была добрая. І ў яго на радзіме, маўляў, бацькі таксама кныра закалолі. Хваліцца, што надта ж здаровы быў кныр, кілаграмаў восемдзесят. А я дзіўлюся, як гэта кабан можа так мала важыць. У нас з такой вагой ён яшчэ парасём называецца, а не кныром.

Бабуля цяжка ўздыхнула, але аповед не перапыніла:

— А потым мужа майго, дзеда твайго, лавілі і ў палях, і ў лясах. Шмат разоў яго лавілі. І да немцаў, і пасля вайны. І за тое, што нарадзіўся ў Амерыцы арыштаваць хацелі, і за тое, што проста нарадзіўся. І што хату для дзетак сваіх хутка паставіў узамен за спаленую імі. Урэшце схапілі, як ён пасля вайны вярнуўся. Ужо думалі, не вернецца. А ён жывы, дзякуй Богу!

Не паспелі сустрэчу адзначыць, а тыя злыдні ўжо на парозе. Не паглядзелі, што ён з узнагародамі, што ваяваў. Думала, не адпусцяць яго. Але яны сказалі, што калі ён са мной прылюдна пойдзе і ў калгас уступіць, то чапаць больш не будуць. Бо я апошняя была, каго не маглі прымусіць у калгас ісці. Упіралася, як магла. Аніякаму прымусу не падпарадкоўвалася.

Яна зноў сціхла, крыху прыгладзіла медаль спрацаванымі руплівымі рукамі і прадоўжыла:

— Вось так мяне ў калгас і зацягнулі без маёй волі, як ваўкі авечку. А што было рабіць? У іх жа сіла. З канём не перабрыкаешся.

Упіраліся мы на той калгаснай рабоце мацней працоўных жывёл. Коні не вытрымлівалі, а мы штодня мусілі. Задарма. Толькі нейкія працадні яны ў сваім сшытку пазначалі, але нічога не плацілі. А з чаго жыць? Сваёй гаспадаркі пашырыць не дазвалялі. Адну кароўку пакінулі, і на тую няма дзе сенаваць. Дзед па начах хадзіў, як злодзей, лясныя палянкі абкошваў. Сенаваў для кароўкі. А каб злавілі яго за тым заняткам, то арыштавалі б адразу. Нібыта ён траву калгасную з лесу краў. Вось так нам тая калгасная доля лягла. Дзетак да школы няма ў што ні адзець, ні абуць. Дзе ўзяць грошы на вопратку, як у калгасе не грашыма, а працаднямі плацяць?

— А за што ж тады рэчы куплялі? — здзіўляюся я гісторыі, адваротнай ад той, што распавядала пра лёс калгаснікаў у школе.

— А вось неяк выкручваліся. Гэта ў тых бальшавікоў з уласнай вопраткі нічога не было. Усё нарабаванае. А каб не пазабіралі ў людзей, то мелі б тае вопраткі менш, чым на голых. А мы то сала на паліто памяняем, яйкі і тварог на іншае што... Дзеткі, дзякуй Богу, не замярзалі.

— Можа варта было ўцячы куды ад такога жыцця? — нясмела пацікавіўся я.

Малады яшчэ быў. Дзіцянё. Не ведаў тады, што дурное пытаю. Яшчэ не ўсе дзедавы аповеды быў выслухаўшы. І Карлаўскага дзеда Яські не ўсе, і Гальшанскага Валодзі. Замалы быў на той момант, то і не расказвалі яшчэ дзяды таго да лепшых часоў. Чакалі, калі паразумнею. Вось і важкасць слоў бабуляў Стэфкі і Веранікі набылі ўрэшце асэнсаваны характар, бо гучалі ў патрэбны час. А як і калі іх сказаць, яны інтуітыўна зналі.

Гэта ж было тое пакаленне людзей, якія добра ведалі, паразумнеў чалавек ці так дурнем і ў лепшы свет адправіцца. Бо разумнеюць то не ўсе, нават доўгае жыццё пражыўшы. Як гавораць у народзе: мудрасць з старасцю не ходзе. Не заўсёды яны прыходзяць разам, старасць і мудрасць. Бывае так, што старасць прыходзіць адна. Цяпер ужо і я гэта ведаю з уласных жыццёвых назіранняў ды высноў. Але ж старт лагічнаму думанню дало тое пакаленне...

Усё было яшчэ наперадзе з дзедавых аповедаў. Але ў той дзень слухаў гісторыю бабуліну, і была яна пацверджаная артэфактам у выглядзе круглага медаля з выявай заснавальніка той краіны, пра якую бабуля распавядала.

Ды і вялікая важнасць таго расказу была ў яго першаснасці. Да яго я жыў у самай шчаслівай і справядлівай краіне, як мне казалі ў школе. А пасля яго толькі пачаў марыць жыць у справядлівай...

— Куды ўцячы, унучак?.. — усміхнулася бабуля. — У нас жа і дакументаў не было. Калгаснікам тады пашпарты не выдавалі. А вось што пачалі выдаваць, дык гэта граматы за добрую працу. А я працавала добра, бо па-іншаму не ўмела. То і атрымала адной з першых тую паперчыну. А пасля іх у мяне было больш, чым у дурня фанцікаў. Каб столькі грошаў далі, колькі тых грамат, нават самымі дробнымі купюрамі, то я магла б купіць увесь іхны калгас разам з калгаснікамі. Ды яшчэ засталося б не менш за палову, — засмяялася.

А смех прыемны, добразычлівы, цёплы, як і выраз вачэй. Ніколі не забудуся.

— І што мне рабіць з тым медалём? — пытаюся.

Зусім па-іншаму я глянуў на лагічнае завяршэнне доўгага ланцужка ўзнагароджванняў бабулінай працы. І на ўсе другія ўзнагароды з таго часу гляджу своеасабліва, пад уплывам тых даўніх уражанняў.

А тады мне здалося, што твар металічнага Леніна набыў настолькі перапалоханы выгляд, якога і пры жыцці не меў. Так разгублена выглядаў, ажно нібыта хацеў з медаля ўцячы туды, адкуль з'явіўся. Але куды ж ты з медаля саскочыш?! Ён жа выява!

— Проста захоўвай, — спакойна адказала бабуля. — Гэта дарагая для мяне рэч. Яна паказвае, якая я была працавітая, і ўвогуле якая была. І што людзі мяне шанавалі. І што нават тыя, хто не хацеў таго, вымушаныя былі ўзнагародзіць мяне. А куды ім было дзецца?! Лічылі мяне ворагам, палохалі, коса паглядалі, даносы пісалі, а ўсё адно прылюдна хвалілі ды ўзнагароджвалі. Вось такія мы!

Шмат гадоў праляцела. Вось, пішу, а медаль ляжыць перад носам як маўклівы сведка мінулага, які і маўчаннем шмат пра што гаворыць. На баку, адваротным аверсу, прабіваецца пацьмянелы ад часу металічнымі літарамі надпіс — «В ознаменование 100-летия со дня рождения В. И. Ленина». Знізу надпісу сумуе гэтак жа пацямнелая савецкая пяціканцовая зорачка. Над надпісам стомлена паглядае выява сярпа і молата. І яна ўжо зацёртая. А з самага верху, вышэй зорачкі, вышэй сярпа і молата, вышэй надпісу пра Леніна заяўляе пра сябе яшчэ адзін надпіс — «За доблестный труд». Усё напісана на рускай мове, вядома ж.

На самім жа аверсе пазначаныя гады — «1870—1970». Ну і профільная, як у Егіпцян, толькі ў адрозненні ад іх абсалютна безгустоўная, з пункту гледжання майго разумення эстэтызму, выява заснавальніка першай у свеце савецкай дзяржавы.

З тых часоў Ленін на выяве, здаецца, моцна пастарэў. Зусім здаў. А ў тыя далёкія часы выглядаў больш бадзёрым, маладзейшым. Цяпер жа паходзіць на зусім нямоглага старца, які нібыта просіць, каб пакінулі яго нарэшце ў спакоі. Каб адчапіліся ўжо. Ну колькі ж можна?!

Але ж не пакідаюць. Помняць. Як і ён некалі заўсёды помніў пра тых людзей, што вымольвалі таго ж, у яго ж. Будаваў ім светлую будучыню, як быццам бы. Хоць яны яго не прасілі і нават не ведалі, што гэта такое. Наадварот, прасіліся, маліліся, каб адчапіліся ад іх, а над імі ўсё адно ставілі сацыяльныя эксперыменты даўжынёй у цэлае жыццё, як над сабакам Паўлава. І не толькі сацыяльныя. І не толькі як над сабакам...

Дарэчы, калі ўжо пра тое зайшла размова, то ў Разанскім музеі па вуліцы Паўлава 25 ёсць пудзіла аднаго з эксперыментальных сабак таго Паўлава. Не ведаю, чым набітае, саломай ці чым больш даўгавечным. Але яўна не тым, чым пры жыцці. Вельмі сімвалічны экспанат. Выглядае як жывы...

# Мініяцюры



Тацяна ВАЛЕНЦІК



Фота vspom.com

## Маланка

Часта езджу на ровары гасцінцам, паўз якія раскінуліся калгасныя палі з кукурузай, рапсам, травой. А яшчэ прыкідваецца балоцісты луг, усыпаны рознымі кветкамі. Сярод разнатраўя цешаць вока малінавыя кусточкі кветак, якія знаёмы мне яшчэ з дзяцінства. Узгадваю, як пасвілі кароў і бавілі свой вольны час: любілі плясці вяночкі, збіраць букеты, будаваць шалашы з галінак дрэў і яловых лапак. Цікава тое, што хадзіла такое павер'е: калі нарвеш малінавых кветак і прынясеш дамоў, дык абавязкова стрэліць маланка ў хату. Кветкі гэтыя толькі разглядваліся і ніколі не рваліся, а павер'е перадалося і пакаленню маіх дзяцей. Так і назвалі кветку: маланка.

Сёння, едучы па шашы, залюбавалася мноствам некранутых суквеццяў, прыпынілася і нарвала цэлы ахапак. Паставіла на вуліцы ў збанок. Любуюся... Як ні дзіўна, але пачаўся дождж і чуцца грымоты. А маланка?... Думаю, што гэта проста дзіцячыя жахі.

## Матуліна мудрасць

На Зямлі харошых людзей нямала, сардэчных людзей нямала.

Ды ўсё ж-такі лепшая за ўсіх на Зямлі — Мама. Мая мама. Яна старэла — я сталела. Яна слабела — я набіралася моцы. Яе не стала — пахіснулася я, але выстаяла, бо павінна была сама стаць апорай для сваіх дзяцей. І кожны свой крок я вымярала матулінымі меркамі. Амаль 40 гадоў яе няма побач, ды я адчуваю адказнасць за кожную зробленую мной справу, бо за мной сочыць з нябёсаў Яе позірк.

## Салодкая згадка

Якім доўгачаканым і жаданым можа быць дзіцятка ў шматдзетнай сям'і — дзяўчынка, калі наперадзе — адны хлопцы. То і не дзіва, што песцілі яе ўсе. Невялікая вясковая хата, раздзеленая шафай і фіранкай, на спальню і «залу». Бліжэй да абеду мама любіла на хвілінку прылегчы на ложак. На «зале» бегала малая — той падскрэбыш, які з'явіўся на схіле гадоў і быў уцехай для бацькоў. «Дачушка! — клікала маці дзяўчынку, — ідзі пакарадзіся да мяне». Сёння гэтае слова можа быць і незразумелым, але малая адразу бегла да матулі, ускоквала на ложак і, прытуліўшыся да яе грудзей, спачатку нешта шчабятала сваё. Пасля слухала матуліны казкі-настаўленні і паволі заціхала ў спакойным сне. Пакарадзіцца б сёння, мама...

## Дзіўная праверка

Дзяўчынка кародзіцца, туліцца да мамы, весела нешта расказвае — і раптам: «Вось ты тулішся да мяне, а не ведаеш, што я — не твая мама...». Невялікая паўза і разгубленасць у дзіцячым позірку. А яна працягвае: «Твая мама памерла, і тата ўзяў мяне замуж, каб я дапамагала цябе гадаваць». Збянтэжанасць і недаўменне ў вачах і душы дзяўчынкі, бо ніколі не адчувала фальшу ў адносінах. Не па-дзіцячы дарослы ўздых малой: «А чаму ж Вы ніколі мне магілкі яе не паказалі?». Імгненне — і ў абедзвюх слёзы на вачах. Сцішэлая малая зноў прытуляецца да матуліных грудзей. «Дачушка мая, ды я ТВАЯ мама, проста хацела праверыць, ці ёсць у цябе сэрца». Дзіўная праверка, але запомнілася назаўсёды.

## Пончыкі

Першы працоўны год пасля школы. Ёй 18 — узрост легкадумнасці, фанабэрлівасці і ўпэўненасці.

Той дзень быў нейкі напружаны, адказны, што не было часу нават паснедаць. Паімчалася ў раён, там на ходу купіла пончыкаў (раней гэта была рэдкасная танная слодыч), з надзеяй хоць на зваротным шляху нешта ўкінуць у рот. У аўтобусе загаварылася і забылася на іх. Прыехала дамоў. Матуля завіхаецца ля печы, каб хутчэй пакарміць дачушку: яна ж з работы прыехала. Дзяўчына нарэшце адчула, як смокча пад лыжачкай, і ўспомніла пра пончыкі. Хуценька дастала іх з пакета на талерку і пачала есці. Маці прыбрала стол і прысела побач. Дзяўчына, напхаўшы рот, расказвала пра свае справы, а матуля з замілаваннем глядзела на яе і слухала-слухала... Вось ужо з'елася і тое, што прыгатавала мама. Усё было смачна, як заўсёды. Але... Дзіўная ўсмешка блукала ў вачах матулі.

Прайшлі гады... І толькі цяпер я зразумела той загадкавы позірк. Мама, даруй, што не прапанавала табе паспытаць тых пончыкаў. Сёння я сама ўмею іх выпякаць, але позна... Не магу табе пахваліцца.

## Чым пахне мама

Не ведаю, як у каго, а пах майго маленства звязаны з мамай. Ён своеасаблівы — гэта карыца і ванілін. Памятаеце белы хлеб, які называлі «сайкі», каштаваў 28 капеек. Маючы многа дзяцей, мама была вельмі гаспадарлівай і эканомнай. Яна рэзала сайку на лустачкі, змочвала крыху вадой, каб прыліп цукар, пасыпала карыцай і ванілінам. Затым высушвала і складвала ў палатняную торбачку на печы. Калі мы ўскоквалі ў хату, каб нешта схапіць для сваіх забавак, мама казала: «На, з'еш сухарык». Хрумсткія, пахучыя, яны проста раставалі ў роце.

Сёння ў краме люблю выбіраць тое, дзе чую гэткі пах, бо гэта мне пасылае мама.

Мама, мама, зноў мне сніцца песня твая. Мама, мама, светлая, як памяць, пяшчота твая. Гэты свет не ад Сонца такі залаты, — гэта ўсё дабрыня, гэты Ты, гэта Ты!

## Надзея — Надзейка...

Просіць унучка бабулю:

—Ты ўсё пішаш пра кагосьці, няхай бы і пра мяне што напісала.

— А што ж пра цябе пісаць? — пытае бабуля.

— Выдумай што-небудзь, — з усмешкай кажа дзяўчынка.

— Не, выдумляць не буду, а напішу сапраўдную гісторыю пра тое, як цябе называлі.

— І праўда, напішаш?

— Напішу!

Жыла ў адной вёсцы жанчына. Мела яна трох сыноў, хаця і марыла пра дачушку. Выраслі хлопцы высокія, статныя і прыгожыя. Пажаніліся неяк адзін за адным. Хутка пачалі нараджацца ўнучаняты. Радуецца кабета: дасць Бог, будзе ўнучачка. Вельмі ж хацелася ёй купляць прыгожыя сукеначкі і банцікі для дзяўчынкі. Аднак у старэйшага сына нарадзілася трое сыноў, у малодшага — двое, ну і сярэдні ўжо аднаго хлопчыка мае. Уздыхае жанчына і кажа суседкам: «Я ўжо ўсякую надзею страціла: шасцёра ўнукаў, а ўсе ж як адзін — хлопцы!».

І тут сярэдняя нявестка зацяжарыла. Як не пыталі, не сказала, каго ёй прагназуюць: хлопчыка ці дзяўчынку. Нарадзіла. Дзяўчынку! Радуецца свякроў, тэлефануе нявестцы і кажа: «Ты там добра паглядзела? Праўда, што дзяўчынка?». Усе сваякі толькі ўсміхаліся з гэткага недаверу. Прыйшоў час забіраць маму з дзіцём дадому. Свякроў таксама паехала. Не паспелі вынесці немаўля, як яна падбегла праверыць, ці не падманулі яе. А тут і нявестачка падышла і спакойна так кажа: «Вы казалі, што надзею страцілі? Дык вось вам і будзе Надзея».

## Урок лічэння...

Май — самы прыгожы месяц года. І няхай вясна сёлета запазнілася, але ўжо радуе белае ўбранне вішнёвых садоў, яркі пурпур цюльпанаў. У такія дні на душу набягаюць успаміны, таму часта перабіраю сямейныя фотаархіў. Да гэтага занятку пачынаюць далучацца ўнукі. У іх узнікае пытанне: чаму 9 Мая называюць светлым святам, толькі са слязамі на вачах. Тлумачу, што амаль у кожнай сям'і жыве ўспамін пра ваеннае ліхалецце, пра тых, хто не вярнуўся дамоў. Памяць вечная, бясконцая ўдзячнасць усім, каму мы абавязаны сённяшнім мірным небам.

Старэйшы ўнук працягвае гаворку: «Мне сёлета споўнілася 18, маім бацькам — за 30, дзядулям і бабулям — за 60, а з дня перамогі над гітлераўскім фашызмам прайшло больш 70-ці гадоў. Значыць, у нашым родзе няма сведкаў ваеннага ліхалецця?».

— ...Жывых — няма, — адказваю. — Але засталіся дзеці, унукі і вы, праўнукі. Вам абавязкова трэба знаць пра тых продкаў, якія здавалі суровы экзамен на мужнасць і трываласць.

Перагортваем з унукамі фотаздымкі сямейнага альбома. Позірк выхоплівае вусатага мужчыну ў вайсковым адзенні. Гэта мой бацька. Яны яго ніколі не бачылі. Адчуваючы дзіцячую зацікаўленасць, пачынаю расказваць тое, што пачула ад сваёй маці.

— Твой бацька пайшоў на фронт у 1944 годзе. Дома засталася я з малымі дзецьмі, самаму меншаму — некалькі месяцаў. Дні тужлівага чакання час ад часу перарываліся радаснымі лістамі з фронту: «Жыў-здароў, ваюю ў Заходняй Прусіі, гонім немцаў назад, беражы сябе, хутка вярнуся...».

Ішлі дні за днямі. Уся сям'я жыла надзеяй на хуткую сустрэчу. Але аднойчы прыйшла суседка і сказала, што маці і яшчэ дзвюх жанчын выклікаюць у сельсавет... атрымаць пахавальныя лісты.

Можна ўявіць, што перажыла жанчына за гэтыя хвіліны, калі пачула такую вестку. Аднак у сельсавет не пайшла: «Не мог ён загінуць, яго чакаюць дзеці, ды і пісаў, што вернецца. Гэта нейкая памылка».

Прайшло яшчэ колькі тыдняў. Сэрца разрывалася ад думак, перад вачыма беглі радкі: «Загінуў як герой. Пахаваны ў Заходняй Прусіі». 

І вось ён, трохкутнік са знаёмым почыркам. Падкасіліся ногі, калі зірнула на дату: жывы! «Ляжу параненым ў шпіталі. Быў моцны бой, таму не пісаў. Трымайся. Хутка буду дома», — так мала і так многа было напісана.

— І сапраўды, вярнуўся ў 45-ым. А дзеці... іх пасля нарадзілася многа. З той пары дзень 9 Мая — самы светлы ў нашай сям'і. З пакалення ў пакаленне перадаецца наказ вашай прабабулі: не садзіце бульбу ў Дзень Перамогі, святкуйце, бо гэта самы дарагі дзень, які заваяваў ваш прадзед.

Я глянула на фотаздымак, і мне здалося, што мой бацька гарэзліва мне ўсміхнуўся: «Ну што, палічылі твае ўнукі, колькі мне гадоў?».

## Кулінáрыя

Ці даводзілася каму-небудзь задумвацца: адкуль бяруцца назвы ў кулінарных выпечках? Не? Ніколі і я не задумвалася. А вось учора прыйшлося. Пачалося ўсё з таго, што нечакана прыехала старэйшая дачушка. Перакінуліся апошнімі навінамі, пабедавалі, што хутка скончыцца лета. І тут дачка кажа: «А давай спячом торт! Проста так, без усякай нагоды». Торт дык торт. Люблю пабыць гаспадыняй збоку, г.зн. назіраць, як іншыя кулінараць. Пытаю: «А чаго даць для твайго торта трэба?». Адказвае: «Усяго! ...І пабольш!».

Мая дапамога была толькі ў тым, што я ўключыла духоўку і падавала то міксер, то блэндар, то інгрыдыенты. У суседнім пакоі гулялі малодшыя ўнукі, якія, як толькі пачулі пах ванілі і гаворку пра торт, стараліся часцей выходзіць на кухню. Кідаючы запытальныя позіркі ў бок стала, не праміналі што-небудзь ухапіць: то арэшак свіснуць, то трускаўку, то кавалачак банана адшчыкнуць, а то і згушчонкі лыжачкай чэрпнуць. Не цярпелася ўбачыць сам торт. Каб не быць назойлівымі для той, што займалася выпечкай, сталі жартам шукаць назву для торта: «Шэдэўр», «З рога ўсяго многа», «Выбрыкі кулінарнага мастацтва», «Сачыненне на вольную тэму», «Пяшчота», «Само каханне», «Фантазія», «Настальгія». Я ж старалася хоць некалькі кадраў гатоўкі схапіць у аб'ектыў. Калі быў зроблены апошні акорд, дачка сказала: «Я яго зляпіла з таго, што было». Гэта таксама магло сысці за назву, але надта ж груваcткая.

Я зрабіла апошні здымак. Вырашылі паставіць у холад для прапіткі. І тут дачка кажа: «Уяўляеш, колькі калорый нам давядзецца з'есці?». «Уяўляю! Але ж гэта будуць у нас дадатковыя міліметры для пацалункаў і кахання», — адказала я дачцэ. «Ну ты і аптымістка!» — усміхнулася яна ў адказ.

А торт вырашылі назваць «Аптымізм».

# Багатворчы знак Соннае сонца



Марыя БАРАВІК

## Адчуванні
**(Сакавіцкія)**

*1*
*У словавынаходніцтве — зіма?*
*Я ўсё шукаю слова, дык няма!*
*Пачуццям адпаведніка няма,*
*ні ў слоўніках, ні ў кнігах (у тамах),*
*не праяўляецца ў фантазіях і снах.*
*Грак у двары сказаў мне, што — вясна.*
*А пачуццё — сваё: «Пара — адна!».*
*І ўпісаная ў лёс так недарэчна,*
*нібыта тут у нас — сярэднявечча;*
*і змест яе ніяк не ўзчалавечыць;*
*у ёй жа — слова, што жыццю пярэчыць...*
*А я хачу!.. Хачу, каб чула вечнасць:*
*«Свята! Свабода! Мір!*
*Дык — чалавечнасць!*
*Зямная, жыццятворная вясна —*
*Жыццё!! Яго непераможны знак!».*

*2*
*У вымучаным слоўніку — зіма.*
*Бо характэрных слоў зусім няма*
*для тлумачэння,*
*што во гэта значыць*
*у вынаходніцтве —*
*дубы так акуратчыць —*
*зняважыць годнасць волатаў-дубоў?*
*...Свет лінгвістычны! Не хапае слоў!*

*3*
*Нідзе агнёў, а столькі камянёў!*
*Адзін ліхтар — затуканы падслепнік!*
*Гразь-каляіны ўрэзаліся ў сметнік...*
*А як назад цяпер?..*
*...Вярнуся днём?..*

*4*
*Няцёмная, бо з зорак, з летуценняў...*
*ноч юная была — з празрыстых ценяў*
*стваралася у фантазійным небе.*
*Вунь з валасоў галактыкі — той грэбень...*
*Як закругляўся ён у юных снах!..*
*...Нібы й суцешна жмурыцца вясна...*

*5*
*Чысты, аб'ёмны снег...*
*Але настрой — не смех.*
*Наша жыццё — не смех.*
*Як знаць, чым ранак прасне?..*
*Сонейка ўсё ж выглядае —*
*жыццяпрыкметай радуе.*
*Бачу — святло ўзлахмачана*
*хмаравады аддачаю;*
*Ушырыню — разбег...*
*Чысты... надзеі снег,*
*шчасце, што ёсць вясна*
*як Багатворчы знак.*

## ...І ў ранішніх імгненнях
**(Красавіцкія)**

***

*Хоць ранак не нашчодрыў росаў*
*пад сціплым свецівам нябёсаў,*
*вільготны, прэлы, шэры насціл*
*замройніўся блакітным шчасцем*
*прадвелікоднаю парой —*
*прынёс пралескавы настрой.*

***

*...І чуецца баравіку,*
*вароне кемлівай, граку,*
*і ўжо бяздомнаму шпаку*
*у сёлетнім красавіку:*
*піла во зноў вішчыць у кроне...*
*На чым цяпер сядзець вароне?*

## Успleскі

*...А слёзы мрояў зззяюць ад нябёсаў.*
*Быль родных душаў вільгатнее ў снах.*
*Сны кліча Вялікодная вясна —*
*Дух Уваскрослы Божы зззяе ў росах*
*І ў веры; у надзеі зноў успleскі —*
*свабоды колер вынеслі пралескі.*

***

*1*
*Прысніўся вобраз:*
*Дзень дзявяты Мая*
*адкрыты смутак у вачах трымае...*
*І нейчага пытання чую сказ...*
*Дык на пытанне ўзрушыўся адказ:*
*— Гэта ж **вы** прыйшлі забіваць...*
*...Мір вам надышло ўладкаваць?*
*Дык павестка — іншая дня,*
***нашая**! І мусім прыняць!*
*З **пекла** праўдаю загаворым*
*пры такой аб'ёмнасці гора,*
*пры такім аб'ёме крыві...*
*Думка думку пільна лаві!*

*2*
*І чую, нібы кажа справядлівасць:*
*«Найцяжкі пераможны шлях —*
*шчаслівы;*
*на ім жа абнаўляецца жыццё,*
*разгубленасць знікае і ныццё,*
*і прарастае Богапачуццё».*

*3*
*Суровы лёс у Перамогі:*
*Шматстратны ён*
*і мужны, доўгі —*
*перапаўняе шлях знямога.*
*Але сілкуе Перамогу*
*любоў ад роднага парога,*
*якая адчувае Бога...*

*4*
*...Дык не на Небе — на зямлі пара*
*агледзецца, і тут адчуць свой рай...*
*Дух творчы! Гэты рай і выбірай!*
*Пра Богасэнс разгублены яго*
*і страчаны атлумлена, бягом,*
*дух творчы, ты мелодыю сыграй,*
*але з гучання выдалі адчай.*
*Пакінь для мары незнікальны рай —*
*натхняцца цудам веры, —*
*выручай!*

***

*Наш свет, то зблізку, то здалечыні,*
*навінамі нядобрымі звініць...*
*...Душа! Табе во ратавальны знак:*
*зірні, як пастаралася вясна*
*у травах ясны колер запаліць —*
*заярчыць крыху боль, які смыліць.*
*Святло вясны, адзінае святло,*
*мне грэе думку, грэючы чало.*

## Прыму я кветкавыя лекі...

*Прачнецца сонейка ледзь-ледзь,*
*Пайду — на трава-доль глядзець:*
*Схаплю у вочы дзьмухаквецень,*
*каб думку злеціць.*

*Ратунку іншага няма,*
*як толькі вочы патрымаць*
*на з'яве Божай дружнаквецця,*
*каб сэрца злеціць.*

*Бадзёрыць буду галаву,*
*паклаўшы думку на траву*
*у яснаквецце, дзе памяць свеціць...*
*каб веру злеціць.*

***12 траўня 2023 г.***



Дзяніс СІДАРОК

***

*Мне сказалі, што гэта надоўга,*
*А так не хочацца думаць і верыць!..*
*Бо душа кожнай ноччу, няўлоўная,*
*Адлятае адсюль у неба.*

*Там вітаецца з месяцам, зорамі,*
*Удыхае паветра волю*
*І становіцца цвёрдай, нязломнаю,*
*Недасяжнай для роспачы й болю.*

*Усміхаецца позняй вясёлцы,*
*Прымяраючы крылы анёлаў,*
*Шле «дабранач» соннаму сонцу,*
*Пакрысе апускаецца долу.*

*На зваротным шляху залятае,*
*Каб наведаць самых любімых,*
*Ім на вушка шапне: «Кахаю...»*
*І вяртаецца ў цела ціха.*

*Тут навешаны краты на вокны,*
*Тут пятнаццаць шконак у хаце,*
*Але ў душаў нязломных і цвёрдых*
*Гэтым волю НЕ адабралі.*

***

*Трэці паверх у майго вагона,*
*Куды давязе мяне гэты цягнік?*
*Свабоды прагнеш, калі ў палоне*
*Смакуеш кожны мінулы ўздых.*

*Шлях нетаропкі і невядомы,*
*Нязвыклы*
*для чыстых сумленнем, душой,*
*Сваё ты цэніш, калі не дома*
*І лёсам пастаўлены перад мяжой.*

*Камусьці кра́ты нібы за радасць,*
*А іншы ўшчэнт растаптаны журбой.*
*Нязменнасці хочаш, калі ўпарта*
*Сутнасць тваю змяняюць турмой.*
*Трэці паверх у майго вагона,*
*Куды завязе мяне гэты цягнік?..*

***

*Да мяне прылятала птушка*
*У адным з найчароўнейшых сноў,*
*Агарнуўшы белаю стужкай,*
*Развярэдзіла палкую кроў.*

*Адшукала словы патрэбныя,*
*Калыханку спявала з пяшчотаю*
*І ўзляцела, чыстая-светлая,*
*На світанні першымі нотамі.*

*Я прачнуўся, абуджаны рэхам*
*Крылаў магутных птушкі той,*
*Засталося на вуснах ласкавым шэптам:*
*«Кахаю цябе, любы мой».*

***

*Не малі, не прасі, не шкадуй*
*Пра свой зроблены выбар свядомы.*
*Не павернецца ў стрэльбу куль,*
*Не сатрэцца сказанае слова.*

*Час усіх расстаўляе па месцах,*
*Адзін шлях не адолееш двойчы.*
*Толькі чыстае, шчырае сэрца*
*Знічам будзе ў жыццёвай ночы.*

*Прыйдзе момант збіраць каменне,*
*І аднойчы ты ўстанеш з калень*
*І між цёмных убачыш ценяў*
*Неўміручы яскравы агмень.*

*Усміхнешся, свой шлях узгадаўшы...*
*Праз усе спакусы і боль*
*Зразумееш, не пашкадаваўшы,*
*Што застаўся самім сабой.*

***

*...Без цябе няма светлых дзён,*
*Толькі подых халоднае ночы.*
*Без цябе кожны першы сон*
*Невыносны, пакутлівы, змрочны.*

*І пракручвае памяць бясконца*
*Глыбіню тваіх воч чароўных,*
*Рук пяшчоту, што промнямі сонца*
*Ахінала цяплом няўлоўным...*

***

*Белай птушцы, што трапіла ў сетку,*
*Бессардэчна падрэзалі крылы,*
*Так хацеў бы я стаць ветрам,*
*І ляцець да сваёй мілай.*

*І калі нават скончацца сілы*
*І нічога вакол не стане,*
*Адрастуць птушыныя крылы.*
*Бо ўсё пераможа каханне.*

***

*Снег зайздросціць тваёй чысціні,*
*Сонца схіляе з сорамам промні,*
*І сталее каханне праз дні*
*Непахіснае. Мілая, помні.*

*Такога кахання варта чакаць*
*І пасля пражываць напоўную.*
*Мне так шмат табе трэба сказаць,*
*І не толькі — умоўнымі словамі...*

***

*І вось наш агульны вагон*
*Пачаў сваё падарожжа.*
*Што гэта? Чыйсьці праклён?*
*Ці проста праверка на годнасць?*

*Розныя ёсць пасажыры,*
*Камусьці на радасць вандроўка,*
*А ў некага рвуцца жылы,*
*І цукар бязмерна горкі.*

*Дзе той наступны прыпынак,*
*Што вызначае лёс?*
*Сярод усіх жыццёвых карцінак*
*Ты — як забыты госць.*

*Апамятайцеся, спыніце*
*Гэты вар'яцкі вагон!*

***

*Сонца сёння не выйшла на працу,*
*Вецер пасварыўся з купаю хмар,*
*Асобныя з нас змаглі засмяяцца,*
*Убачыўшы нейкіх дзіўных пачвар.*
*Оды складалі, ў люстэркі глядзелі,*
*Ды толькі заўважыць і не паспелі...*
*Аднойчы... пачварамі самі сталі.*

***

*І калі апускаюцца рукі,*
*І калі падгінаюцца ногі,*
*Ты прыслухайся да сваіх грудзей*
*І адкінь прэч знямогу.*

*І калі не знаходзяцца сэнсы,*
*А свабода прыдушана кратамі,*
*Ты даверся свайму сэрцу*
*І задумайся пра самае вартае.*

*І калі падаецца, што горшае*
*На нябёсах замест вясёлкі,*
*Ты ўспомні адразу кожнага,*
*Хто табе нараджае золак.*

*Дзеля тых, хто з табою — у думках,*
*Ты не можаш сагнуцца і здацца.*
*Ты павінен на новы прыступак*
*З галавой узнятай падняцца.*

# Чорны воўк



Лявон ВАЛАСЮК

Маці неяк расказвала мне і майму старэйшаму брату Анатолю ў нашы школьныя гады: «Хадзілі маладымі дзяўчатамі ў Пушчанскі лес па чарніцы. Ад дарогі апусяcкаліся ў лес па нейкай нізіне, дзе панаваў паўзмрок, пахла прэлым лісцем і старою мокраю травою, сырым падгнілым дрэвам…

У такіх нязвыклых умовах з камарамі сумесна і збіралі ягады, пераходзячы з месца на месца. Я крыху адстала ад сяброўак, а калі пайшла даганяць, дык на сцежцы паміж дрэў наперадзе нечакана прыкмеціла чорнага ваўка. Уздрыганула, амаль не абамлела ад страху!.. Ён сядзеў, абапіраючыся на моцныя высокія ногі, не звяртаючы ні на што ўвагі, а проста глядзеў у мой бок. Морда яго была шырокая і выцягнутая. Ён напамінаў мне вялікага вастравухага сабаку. І што мяне тады здзівіла ў той непрыемны страшны момант — што воўк быў чорны!..

Анямелая, пераляканая відовішчам, я неяк дадумалася паклaсці на сцежку таму чорнаму страшнаму ваўку скібу хлеба, якая была ў мяне ў вялікім кошыку ў белай хусцінцы… У тым страху паспела падумаць, што воўк, пэўна, галодны, што яго трэба задобрыць…

І я бачком-бачком паціху паспяшалася да сяброўак, адным вокам глядзячы на незвычайнага чорнага ваўка, пакуль яго не стала відно за спінаю…».

…У новым драўляным доме мы жылі на краі вёскі, якая амаль што ўпіралася ў старажытныя могілкі, пра якія ніхто ўжо нічога і не ведаў са старажылаў. За нашым гародам было крыху поплава, і далей за ім пачыналася Чортава балота, якое выгібалася і вяло ўбок Пушчанскага лесу.

Дарога, што цягнулася да старога лесу, праходзіла побач перад хатаю і далей праз «дагістарычныя» могілкі да суседняй вёскіКівацічы і ўпіралася ў каталіцкія пахаванні, дзе ляжаць Пацы… Шпакоўскія… Харкаўскія… Бялінскія… Бабінскія… Штшэмінскія…. Тыя, што будавалі касцёлы… дарогі… сядзібы… бровары.

Наша хата была перадапошняя і стаяла за глыбокім ровам, які выходзіў на поплаў і ўпадаў у Чортава балота. Яшчэ з аднаго боку за полем пачыналася вялікае балота з рэчкаю Шэўняю, дзе касілі на сена траву і асаку для падсцілу хатнім жывёлам нашыя вяскоўцы… Тое сенакоснае месца належала нашаму калгасу «Шлях да камунізму».

Раней за вёскай стаялі хутары, але з розных прычынаў пасля Другой сусветнай вайны гаспадары з сем'ямі перабраліся хто куды, пакінуўшы сяроод палёў астраўкі дрэў і кустоўя, рэшткі печаў і грубак, калодзежныя ямы ды камяні падмуркаў, якія падаваліся нам, дзецям, загадкавымі і таямнічымі.

Аднойчы на пачатку восені, калі ўжо маці пагасіла лямпу і мы леглі адпачываць, на двары раптам пачуліся нечыя цяжкія крокі збоку вуліцы, потым загагаталі ў малым хлеўчыку спуджаныя нашыя белыя, адкормленыя за лета, гусі.

О-о-о, тыя чужынцы! Колькі іх праходзіла і праязджала праз навакольныя вёскі, не мінаючы і нашу, якую з двух бакоў агіналі ўезджаныя дарогі.

Успомніць хаця б цыганскі табар на пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя. Шумны і квяцісты, ён рухаўся да Глінянак праз нашу вёску ад Пружанскай шашы. Бацька на ровары падвёз мяне яшчэ за вёску да суседніх Глінянак, каб толькі лішнія мінуты паглядзець на тое для нас дзіва… Нічога падобнага пазней я не бачыў ужо ніколі.

…Было падобна на тое, што нехта прыйшоў скрасці нашых гусакоў (бацька наш працаваў у горадзе, прыязджаў толькі на выхадныя і святочныя дні ў вёску). На той час маці выгадавала за лета больш за дзясятак гусей, якіх трымалі ў прыбудове-хлеўчыку ля вялікага хлява, у якім знаходзілася карова і падсвінак.

Маці хуценька саскочыла з ложку, апранула куфайку, схапіла серабрысты прамавугольны ліхтарык, які раней прывёз бацька з горада, і пабегла на двор у восеньскую цемру… Мы таксама паўскоквалі з ложка ў куце дома, неапранутыя, сталі чакаць маці…

Праз нейкую хвіліну мы з братам пачулі страшнае сабачае альбо воўчае завыванне, вельмі спужаліся, бо на двары да таго было ціха і стаяла вельмі цёмная ноч, што нават зоркі не прабівалі сваё касмічнае святло.

Нарэшце прыйшла маці, якая цяжка дыхала, была пераляканая, але вочы неяк святіліся асабліва пераможна…

— Нейкі мужчына, як я выйшла з дзвярэй на двор, выскачыў з хлеўчыка, дзе знаходзяцца гусі. А перад гэтым за хлявом страшна завыў воўк… Толькі адкуль ён узяўся?!. — маці сцішаным голасам прамовіла нам, сваім малым сынам, запаліла лямпу і да ранку ўжо не гасіла яе, пакуль не пачало віднець. З ранку пайшла да свайго свёкра, нашага дзеда Івана, які жыў пасярод вёскі, расказаць пра непрыемнае здарэнне: спробу кімсьці скрасці гусей і пра ваўчыны вой-завыванне за хлявом.

Прыйшоў дзед Іван з маці ў хуткім часе, агледзеў усё навокал і пайшоў за хлеў шукаць сляды звера, які дзіка завыў у той час, калі чужынец-злодзей палез у прыбудову-хлеўчык. Дзед не звярнуў увагу нават на сляды босых ног злодзея, што крыху засталіся на двары і каля хлеўчыка.

— Нават і не падумаеш ні на кога, хто мог бы з нашых вяскоўцаў прыйсці ўначы па гусей босы, каб не пакінуць сляды абутку. Але ж, пэўна, воўк яго моцна спужаў. Толькі адкуль ён тут узяўся?!. Мо і сам шукаў здабычу… — дзед выгаварыўся, запаліў самакрутку і крыху памаўчаў, пра нешта сваё мяркуючы…

***

Так атрымалася, што пра ваўка нене ды і ўспаміналі, бо было страшна ад таго, што ён можа вярнуцца па гусі. Але ў вёсцы адбылася яшчэ адна падзея, якая ўскалыхнула вяскоўцаў: дзядзька Пятрук, які жыў пасярэдзіне вёскі за нашым дзедам Іванам, пачаў раптам заікацца. Што адбылося і чаму так сталася? Ніхто пакуль не ведаў, бо ён сам нікому нічога дакладна не тлумачыў, а ягоная жонка Варвара тым больш не магла наконт гэтага нічога сказаць, бо неяк зранку аднаго дня нечакана пераляканая ад таго, што здарылася з мужам…

Не мог нічога сказаць і сельскі доктар Анатоль Паўлавіч, які жыў і працаваў з жонкаю Зінаідаю ў мясцовай амбулаторыі, акрамя таго, што крыху раней двух дзяцей, нашых суседзяў праз дарогу, аднойчы пералякала чорная сабака-аўчарка аднавяскоўцаў Кузьмукоў. Дзеці, Аня і Міколка, ішлі дамоў, як раптам той сабака выскачыў да плоту і пачаў ярасна брахаць. З таго часу яны ў размове заікаліся, хаця і не вельмі, але ж… прычына была відавочная. А тут дзядзька Пятрук… Думай што хочаш.



Фота 24health.by

…Пацiху вяскоўцы сталі забываць пра тое здарэнне з нашымі гусямі, з дзядзькам Пятруком, пакуль новая незвычайнейшчына не напалохала вёску. Чорны воўк… Яго нечакана пабачыў пастух Сяргей, калі ўвечары гнаў калгасны статак да фермы. Воўк сядзеў каля старых Крэчавых груш за вёскаю, дзе раней быў хутар. Тое, што гэта быў воўк, даказалі каровы, якія сполашна пабеглі да фермы, равучы голасна і неспакойна…

Для нашай маці гэты выпадак ужо не быў нечаканым, бо нешта яе даводзіла да думкі, што гэты чорны воўк не проста так стаў наведвацца да вёскі, да нашага хлеўчыка з гусямі. «Пэўна, у яго тут нейкія справы звярыныя… Але паводзіць сябе пакуль прыстойна…» — гаварыла не раз нам маці, напамінаючы пра выпадак, калі яна ўпершыню пабачыла чорнага ваўка ў Пружанскім лесе. Для яе гэта быў успамін і лішні клопат пра гусей і пра нас, малых яе сыноў.

***

Пятрук… А гэта ён вырашыў скрасці аднаго-двух гусакоў у асенняй цемры ў канцы вёскі ў жанчыны-аднавяскоўкі, якая жыла адна з малымі сынамі, а муж прыязджаў толькі на выхадныя дні з горада. Вельмі ўжо спадабаліся яму тыя гусакі, калі аднойчы пабачыў і залюбаваўся імі: добра адкормленыя, выгадаваныя. Ды і ў канцы вёскі ніхто не пабачыць яго ў цемры і не пачуе. А каб ніякіх слядоў не засталося, пайшоў у цемру басанож: хто потым зверне ўвагу на босы след, калі і пабачыць…

Нібыта ўсё складалася ўдала, пакуль дайшоў да хлеўчыка з гусямі, але яны загагаталі спалохана-моцна, што не чакаў такой рэакцыі ад хатніх птушак. А раптам і ўвогуле да ўсяго з'явіўся пад гагатанне гусакоў аднекуль воўк, які завыў так страшна, што Пятрук амаль не страціў прытомнасць, хаця і быў не з пужлівых людзей (немцы з паліцаямі не так палохалі ў апошнюю вайну!).

Петрука, у якога сэрца амаль не выскачыла з грудзей, ад страху панесла гародамі, праз роў напрамкі да роднай хаты, што ён не паспеў і апамятацца, як ускочыў у свае сені і заляскатаў ад перажытага страху зубамі…

Варвара выхапілася з кухні да Петрука і не магла пазнаць мужа: твар белы, перакошаны, і самае страшнае — ён не мог нармальна выгаварыць і слова. Толькі крыху аддыхаўшыся, ледзь пачаў гаварыць, заікаючыся.

— О-о, божачкі!!! Што гэта такое робіцца?!! — паспрабавала лямантаваць Варвара, але Пятрук рукою моцна заціснуў ёй рот і ледзь вымавіў: «Каб ні-і с-слова н-нікому п-пра г-гэта-а!!!».

Не распранаючыся, Пятрук стомлена ўпаў на ложак, але сон ад страху не ішоў. Мужчына прыслухоўваўся да гукаў на сваім падворку, у вёсцы. Недзе завыў сабака, потым другі… А калі непадалёк ад хаты пачуў завыванне ваўка, дык увогуле адчуў, што гэта па яго прыйшоў звер, які налякаў ля хлеўчыка з гусакамі ў другім канцы вёскі непадалёк ад старажытных могілак…

***

Зімою неяк у святочны дзень да нас завітаў у добрым настроі дзед Іван у сваім доўгім прыгожым кажуху, шапцы-аблавушцы. Маці пасадзіла яго за стол, пачаставала чым магла… Пагаварылі… Дзед, расчырванеўшыся ад выпітай гарэлкі, падзякаваў за пачастунак і пачаў збірацца да меншай дачкі Марыі ў суседнюю вёску, што знаходзілася напрамкі за лугам-балотам Шэўняй.

Маці пачала адгаворваць свёкра: «Тату, не йдзіце зараз да Марыі: мароз вялікі, снегу намяло… Ды і праз балота напрамкі ісці небяспечна: можна праваліцца ў якую яміну альбо роў…».

Дзед Іван быў непахісны ў сваім намеры. Апрануўся і рушыў да дзвярэй, а мы за ім следам. Дзед хуткай хадою ішоў на заснежанае поле. Маці працягвала ўгаворваць дзеда вярнуцца, а я толькі назіраў за відовішчам і слухаў размову старэйшых.

Дзед Іван сваёй постаццю выдзяляўся на белым покрыве поля, хутка ён стаў не бачны: пайшоў па схіле ўніз да сажалкі Круган. Мы з маці працягвалі стаяць ля пачатку заснежанага поля за драўляным крыжом-абярэгам, калі раптам пачулі завыванне ваўка. Маці злякалася: «Што рабіць?!. Зноў воўк!.. А раптам ён нападзе на свёкра!…».

Мы не ведалі, як паводзіць сябе далей, але пачалі адыходзіць да хаты, спыніўшыся ля двара. Прастаялі так нейкі час, пакуль не пабачылі постаць дзеда Івана, які вяртаўся «з паходу»…

— На чорнага ваўка нарваўся!.. — ледзь дыхаючы, прамовіў нявестцы свёкар, абціраючы даланёю твар. — Пэўна, гэта той, што ўвосень прыходзіў да вашага хлеўчыка, калі хацеў нехта скрасці гусей. Я так думаю, што нешта ёсць у гэтым ваўку: усё ж такі ён не дарма тут часта бывае…

Заканчэнне на стар. 7 »

# Чорны воўк

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

— Мо гэта той чорны воўк, якога я бачыла ў маладосці ў Пушчы, калі хадзілі ў Пружанскі лес па чарніцы з дзяўчатамі?!. — дадала маці.

— Хутчэй за ўсё гэта не воўк, а ваўчыца… хаця ўсё гэта дзіўна выглядае… — выказаў меркаванне дзед, прысеўшы на шырокую лаву на кухні, дзе не так даўно маці частавала яго святочным абедам.

Дзеду ўжо не хацелася ісці ў суседнюю вёску да меншай дачкі: на той час яму ўжо хапіла прыгод і ў сваёй вёсцы, таму ён вырашыў пабыць з намі яшчэ нейкі час.

***

…Праз дарогу ад нас па дыяганалі ўбок Шэўні на скрыжаванні двух шляхоў знаходзіўся зялёны кавалак зямлі з маладою ліпаю. На ім вяскоўцы ў свой час абкапалі невялікі квадрат поплаву, пасярод якога паставілі драўляны крыж для абярэгу…

На двары быў пачатак шасцідзясятых гадоў, калі камуністы змагаліся за атэізм такім чынам, што зразалі крыжы ля вёсак, закрывалі цэрквы…

Каля маладой ліпы і каля крыжа мы, дзеці, у добрае надвор’е бавілі час, асабліва ўлетку пад спевы жаўранкаў у небе. Але аднойчы адбылася такая падзея, што надоўга запомнілася нам, малым хлопчыкам і дзяўчынкам. Асабліва гэта тычылася нас з маці…

Аднойчы, ужо вясною, калі пацяплела, пасля асенняга выпадку з нашымі гусямі, пасля выпадку зімою з дзедам, недзе пад ранак зноў завыў воўк непадалёк ад нашай хаты. Першай схапілася маці: глянула ў адно акно, потым — у другое, якое выходзіла на абярэжны крыж. Там мітусіліся людзі — тры чалавекі-мужчыны. Маці крыху разглядзела цёмныя постаці. Але яны мітусліва аглядваліся, падбегам складалі ў воз, што стаяў з канём непадалёк, нейкія прыстасаванні. Зноў завыў воўк, які знаходзіўся недзе побач у кустоўі непадалёк ад старых могілак. Мужчыны спешна пасядалі ў воз і шпарка паехалі, бо конь перапужаўся яшчэ больш за мужчынаў. Маці гэта якраз усё бачыла і, хвалюючыся, паведаміла нам, бо мы прачнуліся і не ведалі нават, што адбываецца…

Ужо раніцай, калі пасвятлела, маці выйшла на дарогу да крыжа і пабачыла, што знізу яго пачыналі пілаваць тыя мужчыны, которыя нечакана з’ехалі, злякаўшыся воўчага голасу. Выйшаў і сусед наш Сашко з жонкаю да маці, пра нешта перагаварылі і разышліся…

Маці, пакарміўшы нас, пайшла да свёкра — нашага дзеда Івана, расказаць пра новы выпадак з ваўком і на гэты раз пра спробу спілаваць крыж на канцы вёскі…

— Хто там быў ля крыжа, можна толькі здагадвацца: нашыя мясцовыя камуністы і іхнія пасобнікі. Больш ніхто не пайшоў бы на гэта святатацтва… А тое, што зноў прыходзіў воўк, то гэта ўжо не выпадкова. Трэба пагаварыць пра гэта з нашым аматарам-паляўнічым Іванам. Здаецца мне, што воўк часта тут бывае апошнія месяцы, але ніякай шкоды не прыносіць, а наадварот — аберагае вас і вёску… Але трэба асцерагацца позна ўвечары: далёка не адыходзіць ад хаты. Што заўгодна можа быць.

Маці слухала свёкра і хвалявалася не столькі за сябе, як за нас. Яна ўжо неаднойчы прыпамінала нам пра выпадак у лесе, калі з сяброўкамі ў маладосці хадзіла па чарніцы і сустрэла ў Пушчы чорнага ваўка, якому пакінула на сцежцы акраец хлеба, каб не бег за ёю, а паласаваўся нечаканаю «здабычаю»…

***

Дзядзька Пятрук у хуткім часе даведаўся ад вяскоўцаў зноў пра чорнага ваўка: той амаль што напаў удзень на Івана Філімонава, калі той напраўляўся ў суседнюю вёску да дачкі напрамкі праз Шэўню.



Фота pcclean.io

«Гэта нейкі знак для мяне!», — падумаў стары злодзей, чухаючы патыліцу бруднаю даланёю. «Той ваўчара, пэўна, запомніў мяне і чакае новай нашае сустрэчы. Пакуль я яго не парашу, не будзе спакою ні яму, ні мне…», — так думаў вясковец, выношваючы ў галаве свой план наконт помсты зверу альбо ўвогуле яго знішчэння.

Петруку хацелася неяк вырашыць тую праблему раз і назаўсёды, толькі трэба дзеля гэтага нейкая зброя не толькі для абароны, але і для нападу на ваўка, на яго знішчэнне. Мужчыну падавалася, што воўк падбіраецца да яго паціху, вышуквае па паху і выгляду яго постаці. «Даліся мне тыя гусі!» — злаваўся на сябе мужчына, бо ведаў, што тады дарма пасунуўся на канец вёскі па дурную здабычу. Так хацелася дармавога мяса…

Ад пастак Пятрук адмовіўся адразу: можна самому трапіць у тое жалеззе альбо пятлю, ці нехта з вяскоўцаў улезе, то тады біды не абярэшся ўвогуле. Вырашыў скарыстацца братавай стрэльбаю-двухстволкаю, якую жонка Варвара захоўвала ў каморы да чарговага прыезду на паляванне малодшага брата Васіля.

— Варка, а патронаў шмат Васілёвых ты трымаеш у каморы? — запытаў Пятрук у жонкі неяк пад вечар, седзячы за вячэраю.

— Ты што, здурэў, уначы на паляванне сабраўся ісці?!. — недаверліва і са злосцю запытала Варвара. — Бяды якой яшчэ не нарабіў для мяне і для сябе! — выгукнула яна мужу, але зразумела, што Пятрук нешта задумаў. — Штук восем ляжаць у слоічку з накрыўкаю на паліцы, а ружжо ў анучу закручана. Васіль увогуле не дазваляе мне аддаваць у чужыя рукі гэтую зброю, але табе, пэўна, быў бы не супраць даць на некаторы час… — Жанчына шмыгнула вялікім носам, выцерла даланёю пад ім вільгаць і запытала: — Ну то што ты надумаў, гавары, бо не атрымаеш братаву стрэльбу, пакуль не скажаш…

***

Аднойчы вяскоўцам пад вечар недзе на балоце былі чутны стрэлы. Маці знаходзілася з намі на падворку ў той час. Стрэлаў было два, і да таго пачулася выццё сабакі альбо ваўка, бо быў працяжным і такім невыносным, што захацелася схавацца ў хату на печ альбо пад ложак. Але за звярыным голасам пачуўся і чалавечы крык, які хутка заціх… І потым настала цішыня, ды такая моцная, што захацелася самому крыкнуць, каб толькі не было так страшна ціха…

…Пачынала ўжо добра змяркацца, калі на двары пачуліся нейкія ціхмяныя гукі. І нібыта чыйсьці ціхі няўпэўнены голас падаўся ад нашага хлява. Маці выйшла за дзверы паглядзець у двор і ўскрыкнула ад нечаканасці: ля хлеўчыка, дзе былі раней нашыя гусі, ляжаў чорны воўк з акрываўленаю пярэдняю лапаю. Маці напачатку спужалася, але калі крыху супакоілася, то падумала, што гэта дзядзькаў сабака-паляўнічы, бо такі ж чорны колерам, але ж чамусьці толькі значна большы памерам…

Воўк жаласлівымі вачыма глядзеў на маці, высунуўшы чырвоны язык і цяжка дыхаў. Маці нарэшце ўсё зразумела, калі паглядзела на ваўчыныя лапы: вялікія і доўгія… Гэта быў той воўк альбо ваўчыца (ваўчыца!), якая з восені мінулага года няведама чаго кружыла вакол нашай вёскі, асабліва каля нашай хаты…

І маці раптам прыпомнілася тая падзея з убачаным ваўком, калі яна хадзіла з сяброўкамі па чарніцы. Так! Гэта быў той жа самы воўк (ваўчыца!), які сядзеў на сцежцы ў лесе, а маці пакінула яму скібу хлеба, каб толькі не бег за ёю. Яна ўсё зразумела моўчкі: воўк прыпоўз да яе па дапамогу, бо сам справіцца з той ранаю, канечне, не мог. Гэта ён, воўк, аберагаў апошнія месяцы наша жыллё, кружляючы вакол нашай хаты. Гэта ён налякаў і прагнаў восенню ад нашай хаты злодзея, які прыходзіў у цемры па гусей, гэта ён не пусціў зімою нашага дзеда Івана ў суседнюю вёску, аберагаючы яго ад выпадковага няшчасця сярод заснежанага поля-балота ў моцны мароз…

Маці падумала, што, пэўна, воўк дажывае свой век, таму прыйшоў развітацца са сваёю «знаёмаю», а заадно і пасцерагчы яе і яе родных ад нечаканасцяў жыцця, але тут ужо яму самому патрэбна была канкрэтная дапамога ад чалавека…

У тым жа хлеўчыку, дзе былі гусі мінулым годам, маці ўладкавала цёплае месца для ваўка, які дазволіў перавязаць лапу і пакласці сябе на сена ў зацішнае месца, хаця і з насцярогаю глядзеў вакол і на рукі нашай маці, падаваў голас, калі тая перавязвала лапу…

…На наступны дзень з самага ранку ў вёсцы было неспакойна: Варвара падняла людзей на пошукі Петрука, які не вярнуўся з вечаровага палявання на Чортавым балоце…

Адшукалі «паляўнічага» непадалёк за вёскаю на балоце ля сухой купіны ўжо нежывым — з парваным горлам. Побач ляжала стрэльба-двухстволка.

*2023 г.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (204), жнівень 2023 года

# Затанулыя Атлантыды

Рыгор БАРАДУЛІН (1935–2014)

***

*У адчаі на худым гарбе*
*Ездзіць пачала мая трывога.*
*Я ў лясах гадоў*
*Згубіў сябе, маладога.*

*Колькі ні гукаю —*
*Цішыня.*
*Голасу не падаé,*
*Нямая.*
*І куды ўцяклі гады?*

*Каня́,*
*Каб дагнаць уцекачоў,*
*Не маю.*

### Слуцкім паўстанцам

*Пакутнікаў хапала нацы,*
*Змаганцаў не было каб густа.*
*Паўстанцы слуцкія —*
*Выгнанцамі.*
*Акрыла вас жалобы хуста.*

*Як і ў часіны Каліноўскага,*
*Паўстала шляхта йаратаі.*
*Анёлы —*
*Воі войска боскага —*
*Хацелі быць у вас братамі.*

*Вы не чакалі раю скорага,*
*Чужынцам не давалі веры.*
*Вам з двух бакоў хапала ворагаў,*
*Што адчынялі ў пекла дзверы.*
*Паўстанцы!*
*Вы ўвайшлі ў гісторыю —*
*Трывацьмеце ў ёй ныне й прысна,*
*Свая зямля была апораю,*
*У сведках —*
*Семежава й Вызна.*

*Палеглі вы,*
*Ды жыць працягвае*
*Гнеў,*
*Назапашаны гадамі.*
*Дасюль ваш спеў*
*Гучыць прысягаю:*
*«Мы выйдзем шчыльнымі радамі!..».*

### Не бывае

*Як затанулыя Атлантыды,*
*Усплываюць каханыя.*
*Быкі рэўнасці*
*Стаміліся ад карыды,*
*Мілосць прыкінулася пашанаю.*

*Каханыя —*
*Прывідныя аблачыны,*
*Выдыхнутыя непазбежнасцю.*
*І ты, як ліст сарваны з ляшчыны,*
*Ляціш,*
*Каб самога сабе знайсці.*
*Мілосць*
*Сваім нахабствам жывая.*
*Былосць*
*Адплывае ў сны караванамі.*

*На свеце каханых былых не бывае,*
*Яны нечаканасцю пагуканыя...*

***

*А што за істота жах?*
*Ці ён жывы...*
*Ці ад болю*
*Утойваецца ў крыжах,*
*Узяўшы закладніцай*
*Долю?*

***

*Лёс*
*Поўны воз табе вязе.*

*Яшчэ бяда*
*Не горбіць плечы.*
*І маладому па назе*
*З жыццём навыперадкі бегчы.*

*Скупую торбачку нясе*
*Твая здарожаная доля.*
*І пачынаеш пакрысе*
*Ступаць абачліва,*
*Паволі.*

*Жыццё ідзе,*
*А ты за ім*
*Пляцешся*
*Уначэлым ценем.*
*Ты на зямлі,*
*Як ціхі дым,*
*Сплывацьмеш*
*Са сваім найменнем...*

***

*Распрадаюць*
*Агату-хату.*
*Скрылі страхў,*
*Каб не было, дзе*
*Хавацца страху.*
*Яшчэ трываюць*
*Сцены і сцені.*
*Бярвенне трымае*
*Сваё найменне,*
*Сашчапіўшы ў далоні*
*На вуглах*
*Прыймшоныя пальцы.*
*Знойдзеная пад лавай*
*Сякера*
*Так стараецца ў працы,*
*Ажно не чуе сябе.*
*Адчула эмансіпацыю.*
*А над усім тырчыць*
*Пачырванелы не ад сораму*
*Фалас коміна з цэглы.*
*Буграваты канец у яго*
*Белы*
*Ад скваппай вапны...*
*Смутак*
*Збіраецца ўпрочкі.*
*Хатнік задумаўся,*
*Ці заставацца.*
*Жыццё доўжыцца...*

***

*Гарачы град з вачэй*
*Балючаю заслонай.*
*Жыццё пражыць лягчэй,*
*Чым стаць травой зялёнай...*

***

*Перш чым ступіць на ганак,*
*Аб трыпутнік ступакі выцірае*
*І галінкай яблыні*
*Грукаецца ў шыбіну*
*Чэрвень,*
*Усё яшчэ поўны веры,*
*Што гаспадыня*
*Адчыніць дзверы...*

### Чатыры

*Стол чатырохногі*
*Мяне трывае.*
*Чатырохногі зэдлік*
*Мяне трымае.*
*Лінія лёсу крывая*
*Затрымацца часу не мае.*
*У чатыры сцяны закуты*
*Гадую пакуты...*

### Ля хутарышча

*Трымаюць неба валатоўкі —*
*Магілы волатаў.*
*Сюды*
*Мой першы плач*
*Да Верасоўкі*
*Вялі шпачыныя сляды.*

*Ля хутара*
*Жыла крыніца.*
*Імшэў валун.*
*Імжэў спакой.*
*Куды пайшлі?*
*Мне зрэдку сніцца*
*Дазволіў ім*
*Лясны настрой.*

*Хмялюся весняй гаманою*
*Ў забытай радасці ў гасцях.*
*Крыляе бусел нада мною*
*Як бел-чырвона-белы сцяг...*

***

*А двор травою зарастае.*
*Сушэй расе,*
*Глушэй пчале.*
*І сцежка,*
*Быццам складка тая*
*Ў малітвы ціхай на чале.*



Рыгор Барадулін. 2012 год. Фота Валерыя Дубоўскага

*Баюся спадабацца скрусе.*
*І нада мною*
*Страх як птах.*
*Каго спытаць,*
*А ці вярнуся*
*Пад бацькаў вяз,*
*Пад сонны дах?*

*Дый не дачуюся адказу*
*Ад распагоджанага дня...*

*Пажоўклы ліст*
*Спадае з вяза —*
*Мая апошняя радня.*

***

*Вечнасць і вышыня.*
*Свечка і даланя...*

***

*Мякка і на баранé*
*Спіцца ў роднай старане.*
*І ў аўчыне*
*Зябка на чужыне...*

***

*Нараджаецца*
*З галоднага мікроба*
*Прага ўлады —*
*Невылечная хвароба...*

### Плач

*Хоць стае*
*І ўвагі, і харчоў,*
*Плачуць*
*Перапуджаныя вершы,*
*Што сагнецца*
*Палец дваццаць першы,*
*І тады не стане чытачоў...*

***

*А часам загарыцца мне*
*Далічваць дні свае ў чаўне,*
*Як некалі Ду Фу ў Кітаі.*
*З паветам быў на ты Сусвет.*
*Хоць у Вушачы ёсць сусед,*
*Які паэзію чытае;*

*Змялела ціхая рака,*
*І трызняць ценем рыбака,*
*Пра нераст хвалі шэпчуць штосьці.*
*Рассохся човен пад страхой,*
*Што стала, як і ён, трухой.*
*Іржа даўно даела восьці.*

*Расстаўся мой настрой з вясной.*
*Па-над Вушачай-старанай*
*Слоў зябкіх вырай пралятае.*
*І я, як на пяску шчупак,*
*Адчуць хачу ў адчаі смак,*
*Як у журбе Ду Фу ў Кітаі...*

***

*Хто сказаў, што ў гэтым жыцці*
*Толькі раз мы былі маладымі?*

***Су Дун-по***

*Запытайся апоўначы ў соў,*
*І адкажа на золку здзіўленне —*
*Маладыя мы столькі разоў,*
*Колькі выраяў*
*Сподзеў сустрэне.*
*Колькі мы*
*Прывітаем сцяжын,*
*Што вядуць адусюль*
*Дадому.*
*Не даверыць сакрэт нікому*
*Старасць,*
*Як саладзіць палын...*

***

*Багата*
*Ў мінулым стагоддзі было —*
*Падлётак сподзеў,*
*Бацька і маці.*
*Ды выпала*
*Застудзіцца гармáце,*
*І ўсё*
*З аблачынкай дыму сплыло...*

### Ва ўсе вякі

*З нажабраванай мукі*
*Даўкія праснакі...*

***

*Гром падковы куе —*
*Ажарабілася хмара...*

***

*Воз вёз лёс.*
*Хвядос нёс нос.*
*На носе сядзела муха.*
*Завіруха кіпела глуха.*
*Рэха вясёла войкала.*
*Усё азіралася вокала...*

***

*Рэха пачаў туман спавіваць.*
*Прыдрамаць*
*Збіраецца ліха.*
*Вучыцца калыханку співаць*
*Незамужняя салаўіха...*

### Растлумачыла...

*Запытаўся ў Жучкі Рэкс,*
*Што гэта такое сэкс?*
*Адказала Рэксу Жучка —*
*Тое самае,*
*Што й злучка...*

***

*Цішыня нямая*
*Не любіць крыку.*
*Слова шчасце не мае*
*Множнага ліку.*

***

*Ні думкаю, ні вачыма*
*Дагнаць жыццё немагчыма...*

***

*Святло палуднё ўсмешкай.*
*А чым вячэрае змрок?.*

***

*Каго спытаць,*
*Як паспытаць*
*Агонь?..*

***2011 г.***

# Два эсэ



Людміла ХМЯЛЕЎСКАЯ

## Праз ружовыя акуляры

«Ты ўсё бачыш праз ружовыя акуляры», — кажуць таму, хто пачынае праз меру фантазіраваць.

Але чаму колерам фантастычным аб'яўлены менавіта ружовы, а не які-небудзь шэра-бура-малінавы?..

Каб даведацца, трэба паэксперыментаваць: падысці, дзе прадаюцца рознакаляровыя акуляры, і параўнаць, як выглядае наваколле праз кожны з прапанаваных колераў. Акрамя «чарнаты», зразумела ж, бо, ясная справа, праз такое шкло ніякай фантастыкі не пабачыш...

Як правіла, у продажы знойдуцца толькі «бяспечныя» колеры, што найлепш для ўспрыняцця наваколля вачыма: чырвоныя, жоўтыя, зялёныя ды блакітныя. Але іх, канечне, хопіць для эксперымента.

Дык вось...

Жоўтыя, напрыклад, вельмі кантрасцяць у вачах. Але яны бываюць добрымі для вадзіцеляў у непагадзь, як адзначаюць прадаўцы оных. А калі сонечна, лепш узяць зялёнае шкло. Але праз гэткае ўсё наваколле падаецца сумна-шэрым...

Блакіт наўрад ці таксама натхніць, бо ультрафіялет часткова праходзіў праз шкло, як узгадваецца з курса фізікі. Доўга такія акуляры не паносіш...

А вось чырвоны? Самае тое!.. Зроку не напружна, усё становіцца нязвыклым і адначасова цудоўна-незвычайным: светлыя адцені паглыне чырвань, а астатняе наваколле, асабліва чарната ўсялякая, будзе... празрыстай! Неба падаецца загадкава-таямнічым... У рысах мясцовых жыхароў, усіх без выключэння, стануць узгадвацца афрыканскія карані — такімі загарэлымі, смуглявымі стануць выглядаць іх твары... І, што самае дзіўнае, асфальт ужо зусім не шэры будзе, а менавіта малінавы.

Не верыце? Паспрабуйце! І вы, несумненна, пагодзіцеся: нехта сапраўды добра прыкмеціў наконт ружовага, не схлусіў... Насамрэч, хараство і фантастыка!..

## Салдаты фартуны

На першы пагляд здаецца, што лічылка і жараб'ёўка — рэчы ўвогуле процілеглыя.

У першым выпадку гэта выбар удзельніка, які пакідае гульню, а ў другім — наадварот, выбар «ахвяры», якая застаецца і будзе «аддзімацца» за ўсіх. Але ж...

У абодвух выпадках справа ідзе пра аднолькавы метад выбара так званай ахвяры — абсалютнай адсутнасці спаборніцкага працэсу, чыста «на авось», са сляпой спадзяванкай на гаспадыню Фартуну.

Але як можна даверыцца Фартуне, чыё другое імя — выпадковасць?..

А ўсё таму так здараецца, што менталітэт у нас такі: выхоўваючыся на чароўных казках, мы прывыклі чакаць усяго і адразу гатовага, перакладаючы свае клопаты на «Ямелю» ды «залатую рыбку» з «чарадзейнай палачкай»... Шукаем «ахвяру». Менавіта таму, вось, лёс твой ускладзены на кароткую саломінку, выцягнутую наўздагад...

Ці ма́е права простая саломінка вырашаць долю людзей?..

Ведаць, можа, і не ведае, а дачыненне да чалавечых лёсаў мае аднолькава фатальнае, будучы залічанай у шэрагі салдат лёсавызначальнай Фартуны...

# Эліза Ажэшка — каралева польскай прозы на Гарадзеншчыне

Лявон КАРПОВІЧ

Эліза Ажэшка — бясспрэчны боскі талент. Гонар польскай і сусветнай літаратуры. Прататыпамі герояў яе твораў сталі не вялікія дзяржаўныя асобы ці міфічныя героі, а звычайныя жыхары Прынёманскага краю, дзе яна нарадзілася і правяла амаль усё жыццё.

«1902 г. Праходзіць лета без святла і цяпла, хмурае, халоднае, заплаканае... Перашкаджае гэта свабоднаму разгляданню прыроды і ўзмацненню сіл усебаковых на доўгую і мёртвую зіму. Няглядзячы на гэта бываюць моманты прыгожыя, у якія можна глядзець на палеткі збажыны і групы дрэў на палянах, а заўсёды ёсць тут гэта найдзіўнейшая ціша вясковая, якой ніякая частка тутэйшага жыцця замяніць і ўзнагародзіць не можа», — так пісала Эліза Ажэшка ў адным са сваіх лістоў пра краявіды беларускай (у прыватнасці — гарадзенскай) мясцовасці.

Нарадзілася Эліза Ажэшка ў 1841 годзе ў маёнтку Мількаўшчына Гродзенскага павета ў радавітай шляхецкай сям'і Паўлоўскіх. Атрымала добрую адукацыю ў манастырскім пансіёне ў Варшаве.

У часы вызвольнага паўстання 1863 года Эліза была сувязной Кобрынскага партызанскага атрада Рамуальда Траўгута. З іншымі жанчынамі выпякала хлеб, мыла бялізну для паўстанцаў. Потым хавала раненага Траўгута па маёнтках знаёмых ды ўрэшце вывезла ў сваёй карэце да межаў Каралеўства Польскага.

У 1864 годзе Э. Ажэшка не прынялі на працу расейскія чыноўнікі ў Варшаве, і таму яна была змушана вярнуцца ў разрабаваную Мількаўшчыну.

Займалася самаадукацыяй і пачала пісаць. Вясною 1866 года з'яўляецца першае друкаванае апавяданне «Малюнак з халодных гадоў» (пра голад у беларускай прыгоннай вёскі).

І з гэтага часу ўся творчасць пісьменніцы была прысвечана Прынёманскаму краю, яго гісторыі, а галоўнае — людзям, якія спрадвеку лічылі гэтую зямлю сваёй Радзімай.



Казімір Пахвальскі.
Партрэт Элізы Ажэшка

У 1869 годзе Эліза Ажэшка была вымушаная прадаць Мількаўшчыну. Прычынаю таго стала тое, што ў Вільні зачынілася кніжная крама, якую яна фінансавала, укладваючы вялікія грошы, каб распаўсюджваць польскія кнігі. Сама яна за гэта была асуджана на 5 гадоў і інтэрнавана ў Гародню пад нагляд паліцыі з абавязковым рэгістраваннем кожны тыдзень. Ад восені 1869 года жыла ў Гародні.

І праз пяць гадоў пасля паўстання ў яе творах можна сустрэць згадкі аб тых крывавых часах, што давялося ёй асабіста перажыць: «...Паўстанне тут было больш зацятае, упартае, чым у Кракаве»... «Край наш аблажыла глухая цёмная ноч... Перажыла ноч гэтую ў месцы, дзе яна была найдаўжэйшая і найцямнейшая».

Эліза Ажэшка становіцца вядомай пісьменніцай, атрымлівае дзясяткі лістоў, уплывовыя асобы робяць візіты, выказваюць шчырыя словы падзякі.

...Дом Элізы Ажэшка стаяў па вуліцы Мураўёўскай. Калісьці яна мела красамоўную назву Раскоша (па назве вясёлай карчмы). Пасля атрымала назву Міхаіла Мураўёва, якога сама царыца прасіла са слязьмі, каб «ратаваў Літву» ў 1863 годзе.

У дворыку пані Элізы пры вуліцы Мураўёва (ад гадоў міжваенных да сёння вуліца носіць назву Элізы Ажэшка) дзейнічаў ад 1894 года тайны ўніверсітэт.

Пісьменніца ўжо напісала пранікнёныя палкім пафасам творы пра беларускі народ: «Нізіны» (1884), «Дзюрдзі» (1885), «Хам» (1888), «Рэха», «Тадэуш», «У зімні вечар», «На следстве» і знакаміты раман «Над Нёманам» (1887). Дзе чэрпала яна сюжэты, адкуль такі поўны досвед аб жыцці беларускай вёскі, аб звычаях, радасцях і пакутах?

З 1870-га Эліза Ажэшка штогод праводзіць летні адпачынак у вёсках Свіслач, Панямонне, Мінявічы, Луна. Яна не толькі адпачывала, але і збірала матэрыял для сваіх твораў. Каб выехаць, скажам, да Луна, Эліза, якая знаходзілася пад наглядам жандармаў, вымушаная была прасіць дазвол у губернатара. На выезд да Варшавы патрэбна была згода міністра.

У яе лістах з'яўляюцца далікатныя ўзгадкі аб «грубых прыкрасцях, чынімых мне людзьмі ў нябескіх сукнях».

У 1881 годзе Элізе Ажэшка споўнілася 40 гадоў. Вось што пра яе пісаў адзін з сучаснікаў: «Непрыгожая, малая, з кароткай шыяй, цяжкія рысы, пухлыя губы, узграмаджаная карона пасыпаных срэбрай валасоў і вельмі прыгожыя вялікія чорныя вочы. Ма́е за сабою ранняе сіроцтва, няўдалае замужжа, страту радзіннага маёнтка, смерць маці, якая ніколі яе не разумела і не любіла, растанне з каханым...».

А вось што пісала сама Ажэшка пра сваё жыццё: «Жыву ў Мінявічах, якія з погляду здароўя служаць мне дасканала. Даўно ўжо не адчувала сябе такой здаровай, як гэтым летам. Уплывае на гэта, пэўна, праўдзівы паўднёвы клімат, які ў гэтым годзе ў нас запанаваў. Аж да сённяшняга дня дні былі ўпальныя, а вечары цёмныя, ціхія, зорныя, цудоўныя».

Мінявічскі дворык нібы падвешаны над берагам Нёмна. Згарэў у 1863 годзе. Гаспадароў не стала. Ян Каменскі, уладальнік Мінявіч і начальнік цывільнай Луненскай акругі таго паўстання — правобраз Андрэя Краўчыньскага з рамана «Над Нёмнам» — быў у высылцы ў Сібіры. Да нанятага флігеля, які ацалеў з пажару, з 1881-га па 1889 год з траўня да кастрычніка прыязджала знакамітая пісьменніца.

Вось так яна шукала свае вобразы: «Прыглядзелася таксама пільна да шляхты дробнай. Адтуль некаторыя знаёмствы і нават сяброўства з тымі сімпатычнымі людзьмі. Калісьці напішу пра іх пару навэлаў». І выканала сваё абяцанне.

«І паэма "Пан Тадэвуш", і раман "Над Нёмнам", і паэма "Новая зямля" — гэта небывала шырокія панарамныя малюнкі жыцця, па сутнасці, на адной і той жа самай паднёманскай зямлі», — адзначыў Уладзімір Казбярук у прадмове да беларускага перакладу «Над Нёмнам» у серыі «Скарбы сусветнай літаратуры».

Францішак Багушэвіч, паўстанец 1863 года, аўтар неўміручых слоў: «Не пакідайце роднай мовы, каб не памерлі», сябра Ажэшкі, першым з беларускіх пісьменнікаў належным чынам ацаніў значэнне яе творчасці, назваўшы «Каралевай польскай прозы» ды прысвяціў ёй верш «Яснавяльможнай пані Арэшчыне».

«Вывучэнне якіх-небудзь бакоў жыцця народа я параўнала б з выбіраннем жмені канапляных зярнят з бочкі маку. Апынуўшыся ў ролі вучня, я бычыла няёмкасць, нават баязлівасць сваіх настаўнікаў — простых сялянаў, у якіх я распытвала пра што-небудзь», — напісала Э. Ажэшка ў нарысе «Людзі і кветкі над Нёмнам».

Зімой 1906 года яна пачала пісаць цыкл паўстанскіх уражанняў «Gloria victis» («Слава пераможаным»).

Нязвыклы Post scriptum да «Над Нёмнам». «Пісала адным дыхам, аб тым, каго ціаніла найбольш. Пісала так, але каштаны вакол доміка расцвілі, і кожная кветка прамянела ў сонцы, як ружовая паходня, — прызнавалася яна і дадавала: — Так ідзе маё жыццё. Толькі там, за горадам наднёманскім паміж крыжамі і бярозамі ціша і сон... з якога ніхто не ўстане. Там, тыя, якім ужо нічога не трэба, якія параплылі, зніклі».

Неўзабаве не стала і яе самой. Царызму было мала тых здзекаў, што чыніліся пісьменніцы і патрыётцы пры жыцці. Помсцілі ёй і пасля смерці...

У снежні 1911 года ў Віленскай судовай палаце пачаўся суд над яе апошняй кнігай. Прысуд быў смяротны. Але 20 кніг «Gloria victis», што былі ў кнігарні, імгненна раскупілі.

І да сёння засталася памяць аб мужнай паўстанцы і вялікай пісьменніцы, зачараванай краявідамі, і Нёманам, і жыццём людзей у нашым краі.




Вуліца ў Гародні і дом Э. Ажэшка. 1917 г.

# «Нам тут радасці няма»

## Турма і творчасць Якуба Коласа



Анатоль ТРАФІМЧЫК

Сапраўднай праблемай для беларускага літаратуразнаўства аказалася ацэнка творчасці Якуба Коласа турэмнага перыяду (пісьменнік быў арыштаваны па абвінавачванні ў рэвалюцыйнай дзейнасці, скіраванай на ліквідацыю дзеючага дзяржаўнага ладу, тры гады адсядзеў у мінскім «Пішчалаўскім замку». — *Рэд.*). Што праўда, не ўсёй творчасці. Паэмы — «Новая зямля» і «Сымон-музыка» — былі задуманы ў зняволенні, а трэцяя частка «энцыклапедыі беларускага сялянства» — там напісана. Аднак не яны сталі прадметам дыскусій, а кароткія вершаваныя творы.

Акрамя зачыну дзвюх вялікіх паэм, у вязніцы былі створаны сотні вершаў — гучных, пранізлівых, шчырых... Па свежых слядах літаратурнага працэсу Максім Багдановіч на самым пачатку 1911 года з адносна шырокіх ужо на той гістарычны момант шэрагаў беларускіх пісьменнікаў вылучаў толькі Янку Купалу: «Гэта, бадай, адзіны наш пісьменнік, каторы ідзе ўперад, вядзе нейкую ўнутраную працу, і, зрабіўшы ці мала, не супыняецца аж да гэтага часу» [Багдановіч М. Поўны збор твораў: у 3 т. Мінск: Навука і тэхніка, 1993. Т. 2: Маст. проза, пераклады, літаратурныя артыкулы, рэцэнзіі і нататкі, чарнавыя накіды. С. 186.]. І хаця ў творчасці Якуба Коласа, маючы на ўвазе ў прыватнасці першы зборнік «Песні жальбы», Максім Багдановіч бачыць «якуюсь акамянеласць», адсутнасць развіцця («на працягу аж 4-х гадоў Колас не зрабіў значнага кроку ўперад і ў самых апошніх вершах пяе аб тым жа і так жа, як і ў пачатку сваёй працы») [там жа, с. 189], не варта перабольшваць гэтае абагульненне, зробленае на аснове лаканічнага аналізу, таму што насамрэч (і час гэта даказаў) у Якуба Коласа якраз тады пачалі «здарацца» вершы, якія ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры, сталі яе класікай. Дый сучасная крытыка адзначае пэўны суб'ектывізм у той ацэнцы «Песень жальбы», падкрэсліваючы пашырэнне творчага дыяпазону і павышэнне мастацкага ўзроўню (пазней і Багдановіч падкарэкціраваў сваю ацэнку).

«Праблемна-тэматычны дыяпазон астрожных вершаў Якуба Коласа, можа, і не вызначыўся асаблівай шырынёй, але нельга лічыць яго і празмерна вузкім, а матывы — аднастайнымі. <...> І хоць яны («вершы выразна палітычнага гучання», — устаўка ўдакладняльнай цытаты Міхася Мушынскага ма́я. — *А. Т.*) не аказвалі непасрэднага ўплыву на развіццё беларускай літаратуры і фарміраванне грамадскай думкі дарэвалюцыйнага перыяду, іх трэба разглядаць як факт ідэйна-творчай, светапогляднай эвалюцыі Коласа-паэта», — лічыць Міхась Мушынскі [Мушынскі М. Свайму часу і вечнасці // Колас Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 1. Вершы (1908—1910) / рэд. тома М. І. Мушынскі; падрыхт. тэкстаў і камент. К. А. Казыра, Т. Р. Строевай; прадм. М. І. Мушынскага; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т літ. імя Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007. — С. 17—19], тым самым падкрэсліваючы ролю, якую адыграла турма ў духоўным станаўленні будучага класіка. Дый уплыў, пра які тут маркуе вядомы літаратуразнаўца, быў. Прычым уплыў значны. Чаго варты толькі верш «Мужык» («Я — мужык, бядак пахілы...», 1909 г.)?! Гэты твор стаў хрэстаматыйным, а заключныя радкі — крылатымі, шырока цытуемымі паспалітым людам:

*Я маўчу, маўчу, трываю,*  
*Але скора загукаю:*  
*«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!».*

За савецкім часам гэтыя радкі аналізаваліся пад вуглом марксізму-ленінізму, партыйнасці. Сёння не ў модзе марксісцкая метадалогія. Аднак, па-першае, і такі падыход мае рацыянальнае зерне, якое нельга ігнараваць, да таго ж пры разглядзе тых твораў, якія ўзнікаюць падчас папулярнасці ў соцыуме марксісцкай дактрыны. Па-другое, верш «Мужык» варты ўвагі і праз прызму іншых ідэй, у тым ліку нацыянальна-дэмакратычных, перадусім тых, якія пераважалі ў нашаніўскім асяродку. Тым больш што і першапублікацыя твора адбылася толькі 21 снежня 1917 года (па старым стылі) у выразна нацыянал-дэмакратычнай газеце «Вольная Беларусь» (толькі тры дні мінула, як быў разагнаны Усебеларускі з'езд, на якім ледзь не нарадзілася — прынамсі фармальна — незалежнасць ці хаця б аўтаномія Беларусі). Паказальна, што апошні радок згаданага верша спачатку выглядаў інакш: «Бомы, хлопчыкі, бяры!» [З нідалёкай прошласьці // Вольная Беларусь, 1917, 21 сьнежня. С. 4].

Такое назіранне зрабіў яшчэ ў савецкі час Уладзімір Казбярук, але даследчык (відавочна, з прычын сацыяльна-палітычнай кан'юнктуры) не пайшоў далей канстатацыі, да высноў, якія вынікаюць з заўважанага факта. А гэтае нязначнае адрозненне («бомы і стрэльбы») прынцыпова перайначвае ідэйнае гучанне твора, яго лейтматыў. Таму што бомы служаць абуджэнню. Яны — сімвал абуджэння. У дадзеным выпадку (з улікам акрэсленага тут кантэксту) — нацыянальнага. А замена бомаў на стрэльбы надавала вершу рэвалюцыйны пафас і рабіла лірычнага героя твора перш за ўсё прыхільнікам сацыяльных трансфармацый, выключаючы выразны нацыянальна-адраджэнскі момант.

Працытаваную вышэй тэзу паважанага прафесара Міхася Мушынскага нельга не падвергнуць пэўнай рэвізіі яшчэ і таму, што сярод дзясяткаў тых вершаў знаходзяцца і такія, якія былі ацэнены часам у якасці класічных. Галоўным тут назавём, канешне, верш «Родныя вобразы» (1908), упершыню апублікаваны ў раздзеле «З турмы» першага паэтычнага зборніка паэта «Песні жальбы» [Т. 1, с. 539]. Вядомасць твора настолькі шырокая і значная, што ці не абсалютная большасць свядомых беларусаў змагла б яго працытаваць хаця б часткова. Седзячы ў турме, Якуб Колас «бачыць і чуў» «вобразы мілыя роднага краю», «смутак і радасць» лірычнага героя, і змог трансліраваць тое «бачанне і чуццё» настолькі па-мастацку ярка і кангеніяльна, што рэцэпцыя паэта перадалася многім і многім яго сучаснікам, упэўнена працерабіўшы шлях у гісторыю праз гады, дзесяцігоддзі, а можна казаць: і праз стагоддзі — да наступных пакаленняў беларусаў.

*Вобразы мілыя, вобразы смутныя,*  
*Родныя вёскі і люд,*  
*Песні цягучыя, песні пакутныя!..*  
*Бачу і чую вас тут.*

У сувязі з апошняй страфой у кнізе Уладзіміра Казберука «Якуб Колас у школе. Дапаможнік для выкладчыкаў беларускай літаратуры» знаходзім назіранне, якое падмацоўвае сказанае намі: «Сапраўднае значэнне неакрэсленага «тут» стане зразумелым толькі тады, калі ўспомнім, што паэт з 15 верасня 1908 года знаходзіўся ў мінскім астрозе, дзе і быў напісаны вершы "Родныя вобразы"». Дзяцінства не адной



Карціна Уладзіміра Сулкоўскага «Якуб Колас у турме»

генерацыі беларусаў, асабліва — так склалася — вяскоўцаў, праходзіла пад «акампанемент» верша «На рэчцы зімою» (1910 год), пачатак з якога пэўна незабыўны:

*Не сядзіцца ў хаце*  
*Хлопчыку маломў:*  
*Кліча яго рэчка,*  
*Цягнуць санкі з дому...*

Прынамсі — цяжка знайсці ў беларускай дзіцячай літаратуры больш вядомыя радкі.

Такім чынам, нават без паэмаў праблемна-тэматычны дыяпазон Коласавай творчасці турэмнага перыяду, як дазваляе меркаваць шэраг прыведзеных прыкладаў (якія сталі айчыннай класікай!), даволі шырокі. Становішча паэта-вязня, якое расцягнулася на тры гады — з 1908 па 1911-ы, фактычна высвеціла для яго самога ўсе колеры вясёлкі «жыцця на волі», якія Якуб Колас пераклаў на мастацкую мову паэтычных твораў. З улікам глыбіні перажыванняў і ўзроўню літаратурнага майстэрства многія паэтавыя радкі турэмнага перыяду даўно прызнаны шэдэўральнымі.

Звярніце ўвагу: менавіта з твораў турэмнага тагачасся Якуб Колас пачынаецца як хрэстаматыйны класік; да таго біяграфічнага і — не будзе нацяжкі сказаць — гістарычнага моманту такой шырыні і — самае галоўнае — глыбіні творчага патоку не было, знакавых, этапных (прычым не толькі для самога аўтара, а перадусім для ўсёй беларускай нацыянальнай літаратуры) твораў нараджалася вобмель, нават лепшае з напісанага тады надта не выбівалася з агульнанашаніўскага літаратурнага працэсу, не становячыся ў ім знамянальным феноменам. Што й казаць, першы паэтычны зборнік — «Песні жальбы» (1910), прычым — што важна — папоўнены ў значнай меры створанай за кра́тамі лірыкай, — выходзіць менавіта падчас зняволення аўтара. Сімвалічна! Гэты факт сваёй важнасцю — для літаратурнага працэсу — і знакавасцю — для аўтара — сам па сабе нівелюе заўважаную крытыкамі аднастайнасць кніжкі і іншыя яе недахопы.

Пагодзімся з Уладзімірам Казберуком, які заўважыў: «Прыблізна з 1910 года ў творчасці Якуба Коласа ўсё больш прыкметна выяўляецца тэндэнцыя да шырокіх сацыяльна-грамадскіх і філасофскіх абагульненняў і вывадаў, да паглыбленага псіхалагічнага аналізу, а ў сувязі з гэтым — і да стварэння значных эпічных палотнаў. Усё больш глыбокім становіцца роздум пісьменніка, больш шырокім — кола праблем, якія прыцягваюць яго ўвагу, больш настойлівым — імкненне знайсці ў жыцці адказы на балючыя пытанні часу, больш сталым — майстэрства».

У такім святле можна меркаваць, што эвалюцыя Песняра дасягнула вышэйшай ступені мастацтва менавіта дзякуючы турэмным калізіям, якія сталі своеасаблівым генератарам крэатыўнасці. У іх кантэксце творца быў абмежаваны фізічна, але яго дух, нібы ў якасці кампенсацыі гэтага абмежавання, сублімацыйна разняволіўся, перажыванне мараў-мрой сацыяльнага плану, нацыянальнага зместу, урэшце агульначалавечага кірунку «з коптурам», да мяжы нарыву, да напружанага нервова-душэўнага напяцця назапасілася і абвастрылася, выспела і закаласілася — ды знайшло адпаведнае выйсце-рэалізацыю ў эстэтыцы слова — адзіным мастацтве, якім яшчэ ўперад выдатна авалодаў Канстанцін Міцкевіч, заявіўшы пра свой талент са старонак «Нашай долі» і «Нашай нівы».

Пачаўся найбольш плённы адрэзак творчасці велічынёй у добры тузін — ад сілы паўтара дзясятка гадоў, на які прыйшліся практычна ўсе найлепшыя творы Якуба Коласа.

Якуб Колас

### У турме

*Сонца ўстане, сонца зойдзе,*  
*Дзень заменіць ночкі цьма,*  
*А над намі чорнай хмарай*  
*Вісне цесная турма.*

*Птушкі вылецяць на зіму,*  
*Птушкі зноў ляцяць сюды,*  
*Мы ж марнуемся ў астрозе,*  
*Трацім лепшыя гады.*

*Дні мінаюць, дні праходзяць,*  
*Летам зменіцца зіма,*  
*А мы сохнем і марнеем,*  
*Нам тут радасці няма.*

***[1910 г.]***

# О. Генры: аптэка, турма, літаратура

Дар'я СІРАЦІНСКАЯ



О. Генры

***О. Генры (O. Henry, Olivier Henry, 1862—1910) лічыцца ў прозе эталонам дасціпнага гумару і сарказму. Ён стаў знакамітым за свае апавяданні з амаль заўсёдным нечаканым і яркім фіналам. А «Правадыр чырванаскурых» — яго візітная картка — і зусім увайшоў у лік найпапулярных у свеце. Тым не менш, не толькі гумарыстычныя апавяданні пісаў О. Генры — навэла «Апошні ліст» стала ўзорам сентыментальнасці...***

...Маргарэт Портэр, дачка Уільяма Сідні Портэра (менавіта такія «пашпартныя дадзеныя» будучага пісьменніка О. Генры), атрымлівала ад бацькі лісты — рэдкія, затое вельмі пацешныя. Бацька прасіў даслаць яму засушанага снега і распытваў, як яна бавіць час з сябрамі. Абяцаў: вось ён вернецца і прывязе ёй новую кніжку дзядзечкі Рымуса, і яны адправяцца на рыбалку, а яшчэ ён купіць ёй гітару і яны развучаць некалькі дуэтаў. Яна будзе граць на гітары, а ён — на мандаліне. І ўсё гэта будзе калі не пасля Каляды, то ўлетку ўжо дакладна — для рыбалкі самы час. Лісты ён пісаў тоўстым алоўкам, а ў кутках аркушаў ставіў лічбы — каб было зразумела, у якой паслядоўнасці чытаць. Почырк быў буйны, старонкі невялікія, а лісты — доўгія, так што і сапраўды можна было заблытацца.

Лісты, якія атрымлівала Маргарэт, пісаліся па начах у цьмяна асветленым кабінеце турэмнага шпіталя — у бацькі якраз пачыналася дзяжурства, і калі ўсё было спакойна і не трэба было тэрмінова ісці да хворага, ён улучаў хвілінку і садзіўся за ліст да дачкі.

А яшчэ пачаў складаць апавяданні — зусім не падобныя на тыя няхітрыя гумарыстычныя сцэнкі, якімі там, на волі, ён забаўляў чытачоў уласнай газеты «Перакаці-поле». Перажытыя (і перажываныя) клопаты-мітрэнгі парадаксальным чынам падказалі яму той адмысловы тып навэлы, у якім яго ў будучым ніхто так і не пераўзышоў. Гэта — гісторыі амаль казачныя, максімальна ўмоўныя, якія дзівяць амаль непраўдападобнай добразычлівасцю па стаўленні да герояў... і ў той жа час напоўненыя драбнюткімі фактамі рэчаіснасці (аж да такіх, што зразумелыя толькі сучаснікам, толькі жыхарам пэўнага амерыканскага штата, толькі жыхарам пэўнага горада...) і глыбокім разуменнем жыцця і людзей.

Самыя вядомыя яго апавяданні — «Дары вешчуноў», «Апошні ліст», «Муніцыпальная справаздача» — выклікаюць абсалютна шчырае «Такога не бывае!». І ў наступную секунду мы перабіваем самі сябе: «Так, сапраўды так яно і ёсць». Чаму? Гэтыя дзіўныя «казкі пра людзей», добрыя, але не наіўныя, не проста «даюць суцяшэнне», але, відаць, усё ж расказваюць пра нас нейкую нязвыклую праўду — не жорсткую, якой яна бывае звычайна.

Там, у турэмнай аптэцы, ён не толькі вырабляў лекі для хворых зняволеных, але і прыдумаў лекі зусім іншага кшталту — ад маркоты, ад бязвер'я, ад стомленасці, нарэшце. Для сябе самога? Можа, і так. Як бы там ні было, а яно да гэтага часу «нарасхоп» па ўсім свеце.

Тое, што яго пры паступленні ў турму прызначылі начным фармацэўтам, было, відома, сапраўдным падарункам лёсу. Так ён хоць збольшага ратаваўся ад нягодаў турэмнага існавання. А атрымалася гэта таму, што ў юнацтве, калі надышоў час нечым заняцца, ён даволі доўга штурхаўся ў аптэцы, якая належала яго дзядзьку, і пасля змог атрымаць адпаведную медыцынскую ліцэнзію.

Аптэка зрабілася месцам займальным. Дзядзька быў чалавекам кампанейскім і вясёлым, і па вечарах да яго ў аптэку зазіралі суседзі — проста пабалбатаць. Будучы пісьменнік О. Генры таксама быў дапушчаны на тыя зборышчы і займаўся тым, да чаго ў яго быў сапраўдны талент: назіраў і слухаў. Ён прыкмячаў чалавечыя тыпы і запамінаў гісторыі. Гэта толькі здаецца, што за такое кароткае жыццё (а пражыў ён усяго 47 гадоў) напісаць 18 тамоў — неверагодная і нейкая нават насцярожвальная пладавітасць. Маўляў, ну адкуль столькі набралася? А дастаткова проста ўмець слухаць і назіраць.

Гэты яго талент значна раней, чым у апавяданнях, выявіўся ў іншым — у трапных, але пры тым нязлых карыкатурах і малюнках. У гутарках Уільям Сідні Портэр замест таго, каб нешта слоўна тлумачыць, мог за некалькі секунд накідаць партрэт любога чалавека, — і суразмоўца адразу разумеў, пра каго ідзе гаворка. Малюнкі Портэра карысталіся вялікай папулярнасцю, а ён шчодра раздорваў іх усім жадаючым. Дзядзька нават «пусціў іх у абарот» і ў якасці своеасаблівай рэкламы развешваў у вітрыне аптэкі.

Пазней, калі малады Портэр перасяліўся ў Осцін, зажыў там увогуле зусім звычайным жыццём банкаўскага клерка і бацькі сямейства ды пачаў спрабаваць сябе на літаратурнай ніве, тыя малюнкі перавандравалі да яго ў газету, а потым сталі разыходзіцца па друкаваных выданнях усяго Тэхаса. Ён быў з тых рэдкіх людзей, пра якіх можна сказаць: жыццё не праходзіць міма іх, яны прыкмячаюць яго ва ўсіх падрабязнасцях і ўмеюць гэтыя падрабязнасці зберагчы, запісаць, замаляваць.

За кароткі прамежак часу О. Генры змяніў мноства пасадаў: малады чалавек папрацаваў касірам, рахункаводам, чарцёжнікам. Стварыў шэраг ранніх навэл і апавяданняў. Таварыш Уільяма Рычард Хол стаў камісарам Тэхаса і прапанаваў Портэру вакансію. Будучы пісьменнік стартаваў у якасці спецыяліста па чарцяжах у зямельным упраўленні. Зарплаты хапала, каб сям'я не мела патрэбы ні ў чым, але О. Генры паралельна працягнуў займацца літаратурнай творчасцю ў якасці падпрацоўкі.

У Осціне ўладкаваўся на працу ў банк, быў касірам і бухгалтарам, але, відаць, нядбайна запаўняў кнігі бухгалтарскага ўліку, і ў 1894 годзе яго абвінавацілі ў растраце. Пісьменнік-бухгалтар страціў працу, але афіцыйна яму тады не прад'явілі абвінавачання.

Пасля звальнення ён пераехаў у горад Х'юстан, дзе прысвяціў сябе творчасці. Але на той час федэральныя аўдытары ўжо праверылі банк Осціна і выявілі нястачу, якая прывяла пісьменніка да... федэральнага абвінаваўчага заключэння.. Неўзабаве О. Генры арыштавалі. Бацька ўнёс заклад, каб выратаваць сына ад турмы. Суд прызначылі на 7 ліпеня 1896 года, але...

О. Генры быў чалавекам ціхім, замкнёным, нешматслоўным, сарамлівым. Сябры ўспаміналі, што пры сустрэчах ён не імкнуўся развесяліць суразмоўцу, не дасціпнічаў — ды і сам смяяўся і нават усміхаўся вельмі рэдка. Усё сыходзіла на паперу — у апавяданні і ў лісты, доўгія вясёлыя лісты, якія ён любіў пісаць.

Гісторыя жыцця О. Генры, па сутнасці, парадаксальная. Вядома, непрыкметным яго ніхто б не назваў: хіба скажаш так пра чалавека, які любіў кампанію, быў здольным да моў да такой ступені, што за пару месяцаў жыцця на ранча навучыўся размаўляць па-іспанску лепш тамтэйшых работнікаў-мексіканцаў, а слоўнік Джонсана вывучыў напамяць. Хіба скажаш так пра чалавека, які іграў на мандаліне і спяваў папулярныя песенькі то ў гарадскім квартэце, то ў дуэце з жонкай? Безумоўна не. І ўсё ж ён не быў, як кажуць, шукальнікам прыгодаў, не быў эксцэнтрычнай асобай, не донжуанстваваў, не мудрагеліў, не эпатажнічаў. Хіба што піў больш, чым трэба было, — гэта яго ў рэшце рэшт і загубіла...



Пісьменнік з жонкай Атоль і дачкой Маргарэт, пачатак 1890-х гг.

У сваёй выдатнай кніжцы пра О. Генры літаратуразнаўца і амерыканіст А. Б. Танасейчук часта адзначае, што пісьменнік быў чалавекам на дзіва пасіўным, увесь час «плыў па плыні», падпарадкоўваўся то абставінам, то рашэнням блізкіх да яго людзей. І пры ўсім пры гэтым біяграфія яго настолькі займальная, настолькі насычаная самымі нечаканымі і вострасюжэтнымі паваротамі, што застаецца толькі дзівіцца, як гэта па ёй да гэтага часу не знялі які-небудзь серыял. Больш за тое — ужо пры жыцці О. Генры «аброс» мноствам розных апокрыфаў, і цяпер разабраць, якая неверагодная гісторыя здарылася з ім на самрэч, а якую склалі сяброўскія ці злосныя фантазёры, — задача няпростая.

Мяркуйце самі: спачатку нечаканае перасяленне з роднага Грынзбаро ў Паўночнай Караліне аж у Тэхас, на ранча ў глушы, у край стэпавых разбойнікаў, «дэсперадас», якія аднойчы ноччу прытулілі яго ля свайго вогнішча і накармілі; потым нечуваная жаніцьба — нявесту, прыгажуню Атоль Эстэс, ужо вырашана было павезці куды-небудзь далей ад малаперспектыўнага прыхільніка (якім, безумоўна, здаваўся ейным бацькам не занадта энергічны і зусім не амбіцыйны Портэр), ужо пакавалі валізкі, аднак спатрэбілася падшыць сукенку, і на хвілінку дзяўчына выскачыла ў краму па ніткі... і дадому ўжо не вярнулася: яны з Портэрам паехалі да святара, абвянчаліся, і з таго дня бясстрашна зажылі сваім нядоўгім і не вельмі шчаслівым сумесным жыццём.

Далей — сумны і да гэтага часу не растлумачаны эпізод з ужо згаданай нястачай у банкаўскай касе, якую Портэр узначальваў у часы свайго «гарадскога абывацельства». Вінаваты ён быў ці не вінаваты (даследчыкі на гэты конт не паразумеліся), а ў турму ён за гэта ўсё ж пакуль не сеў. О. Генры павінен быў ехаць на паседжанне суда, але замест таго раптам ускочыў у цягнік, які ішоў у процілеглы бок, у Новы Арлеан, да Мексіканскага заліва, а адтуль падаўся за мяжу, у Гандурас. Гэтая краіна не выдавала ЗША збеглых злачынцаў. З дарогі пасылаў жонцы лісты — і, каб пакідаць менш «слядоў», далучаў да іх маляваныя коміксы без тэксту.

Затым — амаль год «беглага» жыцця і знаёмства з найкаларытнейшым персанажам Элам Джэнінгсам, на той час злодзеем, рабаўніком цягнікоў, а ў будучыні — зоркай нямога кіно. Джэнінгс пакінуў успаміны пра О. Генры, якія больш падобныя на які-небудзь том «Бібліятэкі прыгодаў», на своеасаблівыя казачныя прыгоды на морах, акіянах, у аргентынскай пампе і каліфарнійскіх прэрыях з рэвальверамі... (Потым Портэр- О. Генры пабачыцца з Джэнінгсам у турме — уявіце сустрэчу! — і не перастаў сябраваць з ім да самай смерці.)

У 1897 годзе О. Генры, даведаўшыся пра цяжкую хваробу жонкі, вярнуўся ў ЗША. А 17 лютага 1898 года адбыўся суд, на якім пісьменніка прызналі вінаватым у растраце 854,08 даляраў (тагачасных!) і прысудзілі да 5 гадоў пазбаўлення волі. Улічваючы, што Портэр- О. Генры быў ліцэнзаваным фармацэўтам, ён і змог працаваць у бальніцы для зняволеных у якасці начнога доктара-аптэкара. Яму далі персанальны пакой у бальнічным крыле, а ў турэмнай камеры ён не правёў і дня.

24 ліпеня 1901 года за добрыя паводзіны пасля адбыцця трох гадоў Портэр быў вызвалены і ўз'яднаўся з дачкой. Для 11-гадовай Маргарэт бацька ўвесь гэты час быў у камандзіроўцы...

Пасля турмы былі Нью-Ёрк, слава, якая расла дзень за днём, імкненне схаваць ад рэдактараў і газетчыкаў свае прозвішча і мінулае. Нью-ёркскія вуліцы, шынкі, гасцініцы — усё гэта так і поўнілася гісторыямі, так і прагнула займець уважлівага слухача. Гэтак жа сама, як тады, у дзядзькавай аптэцы, ён мог гадзінамі сядзець у кутку якой-небудзь кавярні і моўчкі назіраць за наведвальнікамі.

Потым — другая жаніцьба (першая жонка памерла, і на кім? На Сары Коўлман, з якой быў знаёмы яшчэ ў Грынзбаро (яму было гадоў шаснаццаць, ёй — адзінаццаць, бабулі сябравалі — і вось ён, амаль юнак, як мог забаўляў сімпотную дзяўчынку ў зялёнай сукенцы...).

Калі О. Генры быў ужо вельмі вядомы, адзін журналіст напісаў пра яго вялікі артыкул і згадаў яго сапраўднае імя — а пасталелая Сара прачытала артыкул, успомніла хлопчыка са свайго дзяцінства і паслала знакамітаму пісьменніку ліст. Так і сустрэліся зноў...

Уільям Сідні Портэр быў чалавекам «някідкім», а прыгоды на яго так і сыпаліся, і не выдуманыя, а самыя сапраўдныя. Непрыдуманымі былі і яго ўласныя гісторыі. Пасля ўсіх турботаў заставалася галоўнае: убачанае і пачутае. Галоўная праца адбывалася ўнутры — калі садзіўся пісаць, тэкст ужо быў практычна гатовы, прыдуманы аж да расстаноўкі слоў.

Па звычцы Портэр- О. Генры пісаў па начах, піў пры тым віскі з апельсінавым сокам. У апошні свой год задумаў вялікі раман (другі пасля не зусім удалых «Каралёў і капусты») — і вось гэты раман, мяркуючы па накідах, мог стаць яшчэ адным выбітным амерыканскім тэкстам XX стагоддзя (а можа быць, і не проста «яшчэ адным»). Напісаць не паспеў. Але тыя, хто схільны лічыць О. Генры аўтарам, скажам так, прыемным, але «не геніяльным», нязменна напрошваюцца на адну з самых глабальных спрэчак, — аб сутнасці геніяльнасці. Ці мала — падарыць людзям столькі радасці, якая не памірае ўжо больш за стагоддзе?

Сам таго не ведаючы (ніколі не далучаўся ні да якіх літаратурных плыняў), О. Генры стаў адным з найважнейшых пісьменнікаў сваёй эпохі — эпохі, калі Амерыка так захоплена і настойліва шукала ўласны «голас» у свеце і, у прыватнасці, сусветнай літаратуры. Хоць яго вобразы часам і спрошчаныя, наваттрошкі лубочныя, — затое гэта той «малюначак», які для ўсіх нас з самага дзяцінства неадрыўны ад Амерыкі. І гэты малюнак, пагадзіцеся, у нас — адзін з самых любімых.

## Стаўкі на Нобелеўку-2023

Нобелеўскі тыдзень традыцыйна пройдзе ў кастрычніку 2023 года, але букмекеры ўжо цяпер пачынаюць выкладваць рэйтынгі. Напрыклад, спіс прэтэндэнтаў на галоўную сусветную ўзнагароду ў галіне літаратуры ўжо з'явіўся на сайце Nicerodds.


Харукі Муракамі

Згодна з ім, шматгадовы фаварыт букмекерскага рэйтынгу Харукі Муракамі так і застаўся лідэрам. Ягоныя шанцы на перамогу ацэньваюцца ў прапорцыі 9 да 1. На другім месцы ў рэйтынгу букмекераў — кітайская пісьменніца-авангардыстка Дэн Сяохуа, якая піша пад псеўданімам Цань Сюэ. Закрывае тройку аўстралійскі празаік Джэральд Марнэйн.

У спісе значацца таксама «галоўны пасля Ібсэна нарвежскі драматург» Юн Фасэ і расійскія аўтары Людміла Уліцкая і Уладзімір Сарокін (які абагнаў па стаўцы Джоан Роўлінг і Стывена Кінга). Сярод іншых магчымых лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2023 года — Томас Пінчон, Маргарэт Этвуд, Салман Рушдзі, узбекскі журналіст і пісьменнік Хамід Ісмаілаў і іншыя.

## Міжнародная прэмія імя Скаварады

Міжнародная літаратурная прэмія імя Грыгорыя Скаварады была заснавана ў 2005 годзе. З 2014-га заснавальнікам гэтай прэміі з'яўляецца Міжнародная літаратурна-мастацкая акадэмія Украіны (прэзідэнт Сяргей Дзюба), якая аб'ядноўвае 170 вядомых пісьменнікаў, перакладчыкаў, журналістаў і навукоўцаў з 70 краін свету.



Сярод лаўрэатаў гэтай ганаровай прэміі мінулых гадоў — Іван Дзюба, Юрый Мушкетык, Мікола Жулінскі, Васіль Галабародзька, Міхайліна Кацюбінская, Валерый Шаўчук, Міхаіл Слабашпіцкі, Міхаіл Сідаржэўскі, Ігар Паўлюк і іншыя пісьменнікі, навукоўцы, перакладчыкі, журналісты, дзеячы мастацтва, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы і мецэнаты (з Украіны, ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Канады, Італіі, Швецыі, Балгарыі, Чэхіі, Польшчы, Сербіі, Македоніі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Ізраіля, Грузіі, Расіі, Казахстана, Беларусі, Бразіліі, В'етнама, Румыніі, Філіпін, Бангладэш, Балівіі, Кыргызстана, Таджыкістана, Нігерыі, Індыі, Сірыі, Мексікі і Іспаніі).

Сёлета паступіла больш за 800 прапаноў з 45 краін. Лаўрэатамі прэміі сталі: Народны паэт Украіны Васіль Сіманэнка (пасмяротна) — за вялікі ўклад ва ўкраінскую літаратуру; пісьменнік, праваабаронца, Герой Украіны, заснавальнік Украінскай Хельсінскай групы Мікола Рудэнка (пасмяротна); гісторык, адзін з прадстаўнікоў украінскага нацыянальнага руху, палітвязень, дысідэнт, доктар гуманітарных навук Валянцін Мароз (Украіна, пасмяротна); паэтка Аляксандра Зінчук (Польшча); паэт, драматург, журналіст, вайсковец Дзмітрый Мамчур (Украіна); музыказнавец, доктар філасофіі мастацтва Валянціна Кузік (Украіна); пісьменнік, публіцыст, краязнавец Сяргей Мартынюк (Украіна); пісьменніца, майстрыха, ілюстратар кніг Вольга Бярэза; рэжысёр Віктар Насыпаны (Украіна); пісьменніца, грамадска-культурная дзеячка Алена Рэпіна (Украіна).

## Amazon і кнігі штучнага інтэлекту

Кнігі, напісаныя штучным інтэлектам пад імёнамі сапраўдных пісьменнікаў, выдаляюцца з Amazon (буйная амерыканская шматнацыянальная кампанія, якая спецыялізуецца на электроннай камерцыі). Тэхналагічны гігант адмаўляўся выдаляць кнігі, якія насамрэч былі напісаныя ботамі, але пасля розгаласу ў сацыяльных сетках быў вымушаны гэта зрабіць.

Сярод пірацкіх выданняў — 5 кніг, падпісаных аўтаркай Джэйн Фрыдман. «Гэта сапраўды няякасны матэрыял, падпісаны маім імем. Гэта жахліва…», — сказала Фрыдман. Фальшывыя кнігі называліся «Як напісаць і апублікаваць электронную кнігу хутка і зарабіць грошы», «Пакрокавае кіраўніцтва па стварэнні цікавых электронных кніг», «Стварэнне аўтарскай платформы і максімізацыя прыбытку».

Фрыдман упершыню даведалася аб фальшывых кнігах праз чытача, які заўважыў іх на Amazon. «Гаворка ідзе не пра тое, каб закрыць штучны інтэлект ва ўсім свеце, а пра тое, каб суіснаваць з ім такім чынам, каб стваральнікі-людзі паважаліся і былі абароненыя ад таго, што некаторыя з дрэнных гульцоў збіраюцца зрабіць з тэхналогіяй», — адзначыла аўтарка.

Джэйн Фрыдман — пісьменніца і сапраўдны ветэран амерыканскай выдавецкай індустрыі. Яна была прэзідэнткай і галоўнай выканаўчай дырэктаркай HarperCollins Publishers Worldwide, аднаго з вядучых сусветных англамоўных выдавецтваў.

## Статыстыка Расійскай кніжнай палаты

Расійская кніжная палата апублікавала статыстыку за першую палову 2023 года. Паводле звестак, наклады ўпалі на 17,5%, а Ф. Дастаеўскі абагнаў С. Кінга. За Дастаеўскім ідзе Агата Крысці, а затым Анна Джэйн (псеўданім пісьменніцы Анны Патапкінай, вядомай па шматлікіх маладзевых раманах пра каханне). Сярод аўтараў дзіцячай літаратуры лідзіруе Карней Чукоўскі, за ім «ідуць» Аляксандр Пушкін і Алена Ульева (аўтар развіваючых дапаможнікаў).

Агульны тыраж выдадзеных кніг склаў 168,2 млн асобнікаў супраць 203,8 млн асобнікаў за шэсць месяцаў 2022 года. Сярод перакладных выданняў па-ранейшаму лідзіруюць кнігі, перакладзеныя з англійскай мовы, але ў першым паўгоддзі 2023 года іх выйшла 5059, а за аналагічны перыяд мінулага года — 6435. 3 французскай — 553 выданні, нямецкай — 531, японскай — 245, італьянскай — 160 апублікаваных.

## 8 гадоў калоніі фантасту

Басманны суд Масквы абвясціў завочны прысуд пісьменніку, вядомаму расійскаму фантасту Дзмітрыю Глухоўскаму. Пісьменніка асудзілі на восем гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму і прызналі вінаватым у распаўсюдзе «фэйкаў» пра войска з матываў палітычнай варожасці і ў «штучным стварэнні доказаў».

Аўтар раней пакінуў Расію, і МУС аб'явіла яго ў вышук.

Дзмітрый Глухоўскі — аўтар серыі постапакаліптычных раманаў «Метро 2033», у якіх дзеянне адбываецца ў ахопленай вайной Расіі. Па матывах кніг створана культавая серыя гульняў «Метро». Яшчэ ў 2019 годзе расійскія прапагандысты назвалі гульню русафобскай.

## «Адаптацыя» кніг Астрыд Ліндгрэн

Унучка сусветнавядомай дзіцячай пісьменніцы, якая апякуецца бабулінай літаратурнай спадчынай, плануе асучасніць яе кнігі, бо некаторыя выразы састарэлі і незразумелыя сучаснаму чытачу. Пра гэта Аніка Ліндгрэн паведаміла ў інтэрв'ю журналістам нямецкага выдання Die Zeit. Яна адзначыла, што плануе замяніць асобныя састарэлыя выразы, якія сустракаюцца ў творах, на больш сучасныя, зразумелыя сённяшняму чытачу. Сутнасць апавяданняў будзе цалкам захавана. Таксама з кніг будуць выдалены неэтычныя або дыскрымінацыйныя выразы і словы, якія абазначаюць этна-расавую групу афраамерыканцаў, якія сустракаюцца ў творах пісьменніцы.

## Новая кніга Сі Цзіньпіна

Кампартыя Кітая працягвае выдаваць новыя кнігі кіраўніка Сі Цзіньпіна. Большасць з іх уяўляюць сабой зборнікі выступленняў і дакументаў, згрупаваных па тэмах. Яны адразу становяцца абавязковай літаратурай для партыйных кадраў, а некаторыя з іх павінны чытаць старшакласнікі і студэнты.

Апошні зборнік уключае «Важныя думкі генеральнага сакратара Сі Цзіньпіна аб кіберразвіцці». Зборнік падрыхтаваны Цэнтральнай камісіяй па кіберпрасторы, апублікаваны




Народным выдавецтвам. Развагі Сі Цзіньпіна падзелены на дзесяць тэм. Вылучающца дзве асноўныя (хоць Кітай і з'яўляецца эканамічнай звышдзяржавай, Інтэрнэт па-ранейшаму ў значнай ступені кантралюецца Захадам, аўтар настойвае на тым, што барацьбу за кантроль над Сецівам трэба трактаваць як частку канфлікту паміж капіталізмам і сацыялізмам, а авангардам сацыялізму сёння з'яўляецца Кітай).

Аўтар занепакоены тым, што Камуністычная партыя Кітая не цалкам кантралюе тое, што кітайцы публікуюць у сацыяльных сетках. Партыя забараніла Facebook, Twitter, YouTube і Instagram, але яны застаюцца даступнымі для тых, хто ўмее карыстацца VPN (хоць у Кітаі гэта крымінальнае злачынства).

Сотні мільёнаў кітайцаў карыстаюцца мясцовымі сацыяльнымі сеткамі і сайтамі мікраблогаў. У Weibo каля 600 мільёнаў карыстальнікаў. Мэта ж татальнага кантролю над Інтэрнэтам і сацыяльнымі сеткамі застаецца для КПК недасягальнай. Адным з варыянтаў была б поўная забарона сацыяльных сетак, але яны настолькі трывала ўвайшлі ў паўсядзённае жыццё кітайцаў, што спроба забараніць іх выклікала б вялікі рэзананс.

## Кінг прадае правы на экранізацыі кніг за… 1$

Студэнтка ташкенцкага філіяла Усерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі Гульнара Іванова зняла кароткаметражку па матывах апавядання Стывена Кінга «Чалавек, які не пацiскаў рук». За правы экранізаваць твор аб праклятым мужчыне, які забіваў усё жывое адным дакрананнем, дзяўчына заплаціла «каралю жахаў усяго даляр». Карціна ўжо атрымала прызнанне кінакрытыкаў, заваяваўшы статуэтку на малайзійскім фестывалі Nitiin International Film Festival у намінацыі «Лепшы трылер». Маладая рэжысёрка падала заяўку на праграму спадара Кінга Dollar Baby («даляравая малая»), у рамках якой пісьменнік прапануе пачаткоўцам-кінематаграфістам зняць «кароткі метр», узяўшы за аснову сюжэт аднаго з яго апавяданняў.

Узамен Кінг просіць пералічыць яму адзін даляр і выканаць умовы кантракта. Галоўнае патрабаванне аўтара — фільм можа выкарыстоўвацца толькі як некамерцыйны праект. Пісьменнік забараняе выкладваць кароткаметражку ў Сетку, трансляваць яе ў кінатэатрах і прадаваць на DVD-носьбітах, з-за чаго складана назваць дакладную колькасць работ, знятых у рамках праграмы. Мяркуецца, што за ўвесь час існавання праекта рэжысёры стварылі некалькі сотняў фільмаў.

У асобных выпадках Кінг можа дазволіць рэжысёру паказ яго твора, але за такі прывілей прыйдзецца ўжо заплаціць самавіты ганарар, на які «даляравая акцыя» не распаўсюджваецца.

Для многіх удзел у праграме стаў пераломным. Рэжысёр Фрэнк Дарабонт у 24 гады зняў псіхалагічную драму па матывах апавядання «Жанчына ў пакоі». Пазней менавіта ён экранізаваў культавыя раманы Кінга «Імгла», «Уцёкі з Шаўшэнка» і «Зялёная міля», за якія быў неаднаразова намінаваны на «Оскар». А ў 2015 годзе брытанскі рэжысёр Мэцью Роўні ў рамках праекта Dollar Baby спрадзюсаваў і зняў кароткі фільм «Чужымі вачыма». Фільм прынёс яму больш за 40 міжнародных кінапрэмій.

Згаданая праграма была створана ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя і з таго часу дапамагае адкрываць таленты па ўсім свеце. У ёй ужо прынялі ўдзел школьнікі і студэнты з ЗША, Канады, Вялікабрытаніі, Германіі, Аўстрыі і іншых краін.

